



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

24 лютага 2017 года №8 (1139)


**Змяненні ў раскладзе руху цягнікоў па станцыі Маладзечна**

старонка 17

**Напішы эсэ і выйграй смартфон**

старонка 5

# Махлярствам бацька з сынам "зарабілі" 52 тысячы новымі



**Былы загадчык інтэрната прадпрыемства "Будаўнік-169" абяцаў дапамагчы засяліць у інтэрнат за хабар. Так ён падмануў 21 чалавека.**

**Суд Маладзечанскага раёна прысудзіў яго да 9 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.**

старонка 4

Фота Наталлі ТУР.

## Аддзел ідэалогіі незаконна выплачваў заробкі

ВІЛЕЙКА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама.**

Больш чым на 1 300 рублёў налічвалі і выплачвалі зарплату, больш за 4 400 нямэтавых бюджэтных сродкаў скарысталі на транспартныя паслугі. Больш за 2 200 рублёў аплацілі за бягучы рамонт, не маючы на гэта выдзеленых грошай. Не забяспечылі з пазабюджэтнай дзейнасці расходы за камунальныя паслугі, сувязь і транспарт на 5 900 рублёў.

Аддзел не прымаў дзейсных мер, якія б павысілі эфектыўнасць аб'ектаў культуры раёна і іх выхад на самаакупнасць.

Гэта тычыцца, напрыклад, Вілейскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Ганны Новік разам з трыма гарадскімі філіяламі і 17 вясковымі бібліятэкамі. У 2014 годзе было запланавана атрымаць больш за 461 тысячу ад пазабюджэтнай дзейнасці, але на рахунак аддзела паступіла толькі 1,5% ад запланаванай лічбы.

У 2015 годзе было запланавана атрымаць больш за 403 тысячы рублёў ад пазабюджэтнай дзейнасці, а атрымалі 1,9% ад гэтай лічбы.

У аддзеле заключалі нявыгадныя для сябе дагаворы з камерцыйнымі структурамі за праваздзенне канцэртаў.

**Часта 80-90% збораў ад продажу білетаў пералічвалі прадпрымальнікам. А аддзел ад арганізацыі заставаўся са стратамі ад 130 да 547 рублёў.**

Камітэт знайшоў у аддзеле парушэнні пры атрыманні і выкарыстанні ў 2014-2015 гадах спонсарскай дапамогі на больш чым шэсць тысяч рублёў.

Устанавілі, што па рашэнні Вілейскага райвыканкама аддзел у якасці спонсарскай дапамогі перадаў сельгасарганізацыям капітальныя будынкі. У гаспадарчую дзейнасць іх так і не ўцягнулі, і эканамічны эфект ад перадачы не атрымаўся. Будынкі не выкарыстоўваюць, некаторыя з іх у непрыдатным стане – частква разабраныя падлога, печкі, раскіданае смецце, парушаная электраправодка.

Знайшлі парушэнні ў парадку вядзення бухгалтарскага ўліку, працоўнага заканадаўства, заканадаўства аб статыстыцы і дзяржзакупках.

**Па выніках праверкі да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі 17 чалавек. Да адміністрацыйнай – тры асобы на 588 рублёў. Юрыдычную асобу – на 1 890 рублёў.**

У бюджэт вярнулі больш за 11 тысяч рублёў, незаконна атрыманых і скарыстаных не па мэтавым прызначэнні.

Для прыняцця мер праінфармавалі Вілейскі райвыканкам, фінансавы аддзел і ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама.

**Паводле Маладзечанскага міжрайкамітэта дзяржкантролю.**

## У Мядзеле можна дакрануцца да "Жывога дрэва"

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы ў райцэнтры праходзіць выстава "Жывое дрэва".

Яна прысвечаная 95-годдзю з дня нараджэння разьбяра па дрэве **Леаніда Шостака.** Жыў ён у гарадскім пасёлку Крывічы на Мядзельшчыне, захапляўся разьбой па дрэве. Запомніўся як аўтар самабытных драўляных скульптур і іншых вырабаў. У 60-х гадах мінулага стагоддзя быў лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю самадзейнага мастацтва.

**Аддзел інфармацыі.**

# – Навошта забіваць? – Дзеля прыколу.

## У Мінску судзяць 18-гадовага "хлопца з бензапілой"

**Цяпер у Мінску ідзе суд над 18-гадовым Уладам Казакевічам, які летась у кастрычніку прыйшоў у гандлёвы цэнтр і накінуўся на людзей з сякерай і бензапілой. У выніку загінула адна жанчына, дзве пацярпелі.**




**На пытанні, чаму вырашыў здзейсніць злачынства пілой, маладзён адказаў: "Не было агнястрэльнай зброі. Раней узнікалі думкі аб забойствах менавіта ёй".**

Маладзёна судзяць па трох артыкулах: падрыхтоўка да злачынства, забойства і хуліганства. Яму пагражае тэрмін да 17 гадоў пазбаўлення волі. Расстраляць ці асудзіць на пажыццёвае яго не могуць – на момант злачынства ён быў непаўналетнім.

Экспертыза паказала, што падчас злачынства хлопец усведамляў, што робіць.

**Іск маладзёну прад'явілі пяцёра. Агульная сума, якую патрабуюць ад Улада, – больш за 257 тысяч рублёў. Бацькі хлопца сплацілі пацярпелым 8 тысяч рублёў.**

На пытанні, чаму вырашыў здзейсніць злачынства пілой, маладзён адказаў: "Не было агнястрэльнай зброі. Раней узнікалі думкі аб забойствах менавіта ёй".

Увогуле, здаецца, што хлопец свядома нагяняе жахаў. Пра фільмы кажа, што любіў глядзець "маніякальныя, пра маньякаў". У інтэрнэце нібыта бавіў час за "пакараннямі Ісламскай дзяржавы без цэнзуры".

### Выказванні, якімі Улад Казакевіч шакаваў прысутных на судзе

1. "Вы былі ў навушніках, каб не чуць крыкі ахвяраў?" – пытаецца пракурор.

"Не. Уключыў музыку, каб было весялей. І каб не чуць бензапілу, моцна шумела", – з усмешкай кажа Улад.

2. "Хацеў пасля заканчэння ўніверсітэта зладзіць буйны тэракт. Забіваць кітайцаў, мусульман... Але адлічылі, планы сарваліся".

3. "Навошта забіваць?" – пытае суддзя.

"Дзеля прыколу", – адказвае хлопец.

4. "Да мяне ўсе добра ставіліся... Я да ўсіх дрэнна", – пасміхаецца Казакевіч.

"А чаму вы так ставіліся?" – пытаецца суддзя Арлоў.

"Ну... Проста. Я ж збіраўся забіваць людзей".

5. "Пасля забойства, у час, калі вы былі пад вартай... Ці не ўзнікала жаданне забіваць яшчэ?" – спытаў Аляксандр, муж загінулай жанчыны.

"Узнікала. Яно заўсёды ёсць", – пацісную плячыма Улад.

6. "Ці шкадуеце, што пасля вашых дзеянняў загінула жанчына?" – пытаецца адвакат.

"Не. Шкадую толькі, што мала забіў".

7. "З кастрычніка ўзнікла жаданне забіць як мага больш аднакурснікаў. Гэта было ўвечары, калі я быў у паліклініцы, – абсалютна спакойна пачынае Казакевіч.

Хлопец не змог атрымаць даведку ў паліклініцы. Дакумент быў патрэбны, бо Улад меў шмат прагулаў.

"І вырашыў, што выдатная ідэя папілаваць іх бензапілой. Не, спачатку хацеў пасекчы, пасля вырашыў папілаваць", – кажа Улад.

Такія ідэі былі даўно, прызнаецца хлопец, а адлічэнне з універсітэта проста стала нагодай.

Казакевіч набыў пілу, сякеру, вопратку. З'ездзіў на Цнянскае вадасховішча – трэніраваўся, пілаваў сухастой.

8. "Каб можна было забіць, а пасля гуляць, то я забіваў бы і гуляў пасля. А ў турму не хачу", – тлумачыць Казакевіч.

9. Таксама хлопец адзначыў, што хацеў выклікаць прастытутку, каб патрэніравацца ў забойстве і з'есці яе мазгі.

На судзе маладзён цалкам прызнаў віну, пасяджэнні суда працягваюцца, апытваюць сведак і пацярпелых.

**Паводле "Нашай Нівы".**

## Гучныя злачынствы рэгіёна, у якіх ахвярамі сталі выпадковыя людзі

Асаблівасць злачынства ў ГЦ "Еўропа" ў тым, што "хлопцу з бензапілой" было абсалютна без розніцы, хто стане яго ахвярай. Гэта мог апынуцца любы чалавек, вінаваты толькі ў тым, што трапіў не ў той час і не ў тое месца.

Выпадковасць ахвяры робіць злачынства яшчэ больш небяспечным. Дадатковую злавеснасць яму надае падазраваны, які на судзе выказваецца так, нібы хоча надоўга ўрэзацца ў памяць і разлічвае набыць пасля доўнікаў.

У нашым рэгіёне таксама былі здарэнні, у якіх злачынцу было не важна, хто стане ахвярай. Некаторыя з іх былі хуліганскія, іншыя каштавалі камусьці жыцця. Прыгадаем некаторыя з іх.

1 У снежні 2015 года 18-гадовы вілейчанін у Маладзечне страляў з балкона трэцяга паверха ў дом насупраць. У вокнах дома былі пашкоджанні ад сямі стрэлаў з пнеўматычнага пісталета.

На шчасце, у гэтым выпадку людзі не пацярпелі. А малады чалавек, які нават не цэліўся, атрымаў месяц арышту.

2 Трагічны выпадак здарыўся ў чэрвені 2014 года ў Мясаце Маладзечанскага раёна.

18-гадовы навучэнец політэхнічнага каледжа напаў на 73-гадовую пенсіянерку, якая прыехала з Мінска на лецішча. Юнак дагнаў яе, дастаў малаток і біў ім жанчыну па спіне, грудзях і плячах, пакуль малаток не зламаўся. А пасля дастаў нож і нанёс яшчэ некалькі ўдараў.

Малады чалавек патлумачыў следству, што меў праблемы з бацькамі і пасварыўся з дзяўчынай, і дадаў: "Проста мне ў той дзень раптам захацелася каго-небудзь забіць".

3 У жніўні 2012 года 24-гадовы маладзён зарэзаў касірку букмекерскай канторы ў Маладзечне. Праз 10 хвілін яго разам з 1 300 рублямі затрымалі. Грошы былі ў крыві.

39-гадовай жанчыне маладзён нанёс не менш за шэсць удараў нажом. Але яна паспела націснуць кнопку выкліку аховы.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**




Цяжка эканоміць, калі ёсць дзіця, прызнаецца вілейская медсястра Марына.

# Як трацiць заробак медсястра з Вілейкі

## Хочацца парадаваць дзіця смачненькім

ВІЛЕЙКА

**Што прымушае маладую маму выходзіць на працу ў час дэкрэтнага адпачынку: недахоп грошай, жаданне зносін з людзьмі або нешта іншае?**

Пра гэта расказала **Марына Палянская**, маладая мама, медсястра з Вілейкі.

Жанчына працуе ў родным горадзе. Тут яна вучылася ў гімназіі №2. Калі прыйшоў час выбіраць прафесію, вырашыла стаць медсястрой.

### Маладая матуля захацела разнастаіць сваё жыццё

У сям'і Марыны медыкаў не было.

> **Аднак, прызнаецца жанчына, кіравалася жаданнем дапамагаць людзям. Для дасягнення мэты з роднай Вілейкі паехала ў Барысаў. Там вучылася ў медыцынскім каледжы.**

Пасля было размеркаванне, і Марына трапіла ў дзяржынскую бальніцу. Працавала медсястрой у аддзяленні гінекалогіі. Потым пераехала ў Маладзечна, бліжэй да роднай Вілейкі. Тут працавала ў кардыялагічным аддзяленні бальніцы №1.

На пэўны час працу Марына прыпыніла з-за дэкрэтнага адпачынку. Аднак тры гады вырашыла не сядзець.

> **Жаданне зноў выйсці на працу з'явілася не ад недахопу грошай, прызнаецца Марына.**

Перш за ўсё, хацела разнастаіць сваё жыццё. Бо не так много разнастайнасці ў маладой матулі ў час дэктрэтнага адпачынку, лічыць Марына. Хацелася зносін з людзьмі.

Тым больш, працуе яна на палову стаўкі. А значыць, ад дачушкі не трэба адрывацца на ўвесь працоўны дзень.

### Грошы ў сямейным бюджэце аказаліся не лішнімі

Цяпер маладая жанчына працуе медсястрой у басейне. Безумоўна, гэта лягчэй, чым у бальніцы або паліклініцы, лічыць медсястра. Там больш абавязкаў, адказнасці, непасрэднай працы з пацыентамі.

У басейне Марына сочыць за гігіенай наведнікаў, пры неабходнасці аказвае медыцынскую дапамогу.

> **Аднак такіх сур'ёзных выпадкаў, калі чалавеку раптам патрабуецца тэрміновая дапамога медыка, за час Марынінай працы ў басейне не было.**

Таксама медсястра сочыць за санітарным станам у басейне, кантралюе мікраклімат у ім.

Заробак на палову стаўкі складае 100 - 110 рублёў. Хоць першапачаткова пра грошы Марына не думала, яны, па словах жанчыны, аказаліся зусім не лішнімі ў сямейным бюджэце.

Гэтыя грошы размяркоўваюцца лёгка: большая частка ідзе на аплату камунальных паслуг. Тое, што засталося, – на тэлефон і тэлебачанне.

Калі ёсць дзіця, эканоміць складана, прызнаецца Марына. Дачку хочацца парадаваць нечым смачненькім, новай цацкай, прыгожым адзеннем.

Працаваць на палову стаўкі добра яшчэ і таму, што дапамогу на дзіця плацяць цалкам. Гэта 260 рублёў кожны месяц. Калі б Марына выйшла на стаўку, з гэтых грошай яна б атрымоўвала палову.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Якія спецыялісты-медыкі патрэбныя ў рэгіёне

У Вілейцы і ў раёне ёсць вакансіі правізараў у гарадскія і вясковыя аптэкі. Прапануюць заробак 600 рублёў. Шукаюць таксама прадаўцоў-кансультантаў медыцынскіх тавараў.

У Маладзечне патрэбныя дактары-тэрапеўты, а таксама эндаскапіст, дыетолаг, фтызіятр у супрацьсухотны дыспансер, рэабілітолаг, кардыёлаг, медыцынскія сёстры і інструктар па лячэбнай фізкультуры.

Патрэбныя медсёстры і ў Астраўцы, і ў Мядзеле.

Уролаг, стаматолаг, педыятр, неўролаг, загадчык ФАПа, лабарант – такія вакансіі прапануюць у Смаргоні.

Медсястру шукае ашмянская раённая бальніца. Сюды ж патрэбны фельчар-лабарант. Заробак адной-кавы – 265 рублёў.

Пад некаторымі вакансіямі ўказваюць, што жыллё не даюць. Пад іншымі проста не звяраюць увагу на жыллёвае пытанне.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.02 | 23.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8650 | **1,8723** |
| Еўра | 1,9716 | **1,9698** |
| Злоты, 10 | 4,5783 | **4,5800** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2805 | **3,2598** |
| Грыўня, 100 | 6,9177 | **6,9370** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 15.02 і 22.02** | | |
| Еўра | 1.9600 /1.9970 | **1.9600/1.9850** |
| Долар ЗША | 1.8550/1.8820 | **1.8600/1.8800** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 15.02 | 22.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | **15,99** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **7,13** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,29 | **3,29** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 4,08 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,90** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | **0,69** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,69** |
| Часнок, 1 кг | 7,00 | **7,85** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,39** |
| Морква, 1 кг | 0,55 | **0,57** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,00 | **1,99** |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | **3,49** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,50 | **2,65** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,60 | **2,95** |
| Гранаты, 1 кг | 3,90 | **3,49** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Памідоры, 1 кг | 4,00 | **3,69** |
| Агуркі, 1 кг | 3,90 | **4,95** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **7,75** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,90 | **2,85** |
| Вінаград, 1 кг | 3,00 | **3,99** |
| Бананы, 1 кг | - | **2,15** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,00 | **1,39** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,10 | **2,79** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,39** |
| Сала, 1 кг | - | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,00** |

## Каб не плаціць штраф, прыдумала, што пашпарт скралі

**ВАЛОЖЫН**

25-гадовая дзяўчына, жыхарка Валожына, згубіла пашпарт, але, параіўшыся са сваёй сяброўкай, выдумала гісторыю пра рабаванне.

А пачалася гісторыя так. Дзяўчына наймае кватэру ў Мінску, па будных днях там жыве, працуе.

У канцы снежня яна заўважыла, што з сумачкі прапаў пашпарт. Дзе яна магла яго пакінуць, дзе магла згубіць, дзяўчына не помніла.

Стала пытанне, што трэба ісці ў міліцыю і заяўляць пра згубу.

Расказала пра гэта сваёй сяброўцы.

Сяброўка, дасведчаная дзяўчына, параіла ёй не прызнавацца ў тым, што пашпарт згубіла. Маўляў, будзеш плаціць штраф. Скажы лепей, што пашпарт скралі.

Дзяўчына прыйшла ў міліцыю і расказала наступную гісторыю:

– Аднойчы позним вечарам я вярталася дамоў у Мінску. Раптам з-за вугла на мяне напаў невядомы. Ён схапіў сумачку, у якой былі ўсе дакументы і грошы і збег.

Валожынскія міліцыянеры адаслалі запыт у Мінск.

– Хіба жарты, вулічнае рабаванне, – тлумачыць старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**. – Цяжкае злачынства.

Далей гісторыя развівалася імкліва. Мінскія міліцыянеры знайшлі ў дзяўчыны і тую самую сумачку, і той кашалёк, пра крадзеж якіх дзяўчына заяўляла.

Справу хутка раскрылі, падман выкрылі. Цяпер дзяўчына заплаціць не толькі штраф за згублены пашпарт, але і штраф па артыкуле "Заведама лжывы данос", які нашмат перавышае суму штрафу за згубу пашпарта.

Мараль гісторыі такая: жывіце сваім розумам і не слухайцеся сяброўак.

**Наталля ТУР.**

## Загадчыца фермы крала замяняльнік малака

**ВАЛОЖЫН**

Валожынскі Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу супраць загадчыцы малочнатаварнай фермы адной з гаспадарак Валожынскага раёна.

У перыяд ад красавіка да лістапада, займаючы пасаду загадчыцы фермы, 53-гадовая жанчына крала з фермы замяняльнік малака. Гэтым нанесла шкоду гаспадарцы ў адну тысячу рублёў.

Як расказала жанчына следству, малако ёй было патрэбнае для ўласных, гаспадарскіх патрэбаў, каб карміць свойскую жывёлу.

– Жанчыну чакае звальненне з пасады, а таксама да чатырох год зняволення, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Бархоўскі**.

**Наталля ТУР.**

## У Вілейцы хуліган пабіў табло ў аўтобусе

**ВІЛЕЙКА**

Па вуліцы едзе аўтобус з пасажырамі. І тут на сярэдзіну праезнай часткі спецыяльна выскоквае легкавая машына, прымушаючы аўтобус спыніцца. З акна "легкавушкі" ў лабавое шкло аўтобуса ляціць бутэлька з-пад гарэлкі.

Такую карціну 19 лютага ў абед маглі назіраць прахожыя ў Вілейцы. На ўзбочыне стаяла легкавая машына, якую рамантавалі маладыя людзі. Па словах аднаго з тых хлопцаў, аўтобус апырскаў яго з лужы і паехаў далей.

Праз хвілін дзесяць гэты ж аўтобус з пасажырамі і кандуктарам вяртаўся назад. Маладыя людзі, заўважыўшы яго, ускочылі ў машыну і выехалі на сярэдзіну дарогі. Кіроўцу прыйшлося спыніць аўтобус.

У гэты час з акна аўтамабіля ў лабавое шкло аўтобуса паляцела пустая бутэлька з-пад гарэлкі. У шкло яна не трапіла. Аднак пашкодзіла электроннае інфармацыйнае табло зверху. Кіроўца выклікаў міліцыю.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па артыкуле "хуліганства". Пра гэта расказаў начальнік Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Мядзеле "Аўдзі" збіла жанчыну

**МЯДЗЕЛ**

Здарэнне адбылося каля 19 гадзін 17 лютага на вуліцы Юбілейнай у Мядзеле. 37-гадовы жыхар райцэнтра на "Аўдзі А4" наехаў на 60-гадовую жыхарку Мінска, пенсіянерку.

Яна пераходзіла праезную частку па пазначаным пешаходным пераходзе. Жанчыну шпіталізавалі з дыягназам удары правага сцягна і правага локцевага сустава.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

ТЭМА НУМАРА

# Махлярствам бацька з сынам "зарабілі" 52 тысячы новымі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Суд Маладзечанскага раёна прызначыў пакаранне былому загадчыку інтэрната прадпрыемства "Будаўнік-169" – 9 год калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці.**



Фота wi2jeeps.com.

Для пазадарожніка "Джып Гранд-Чарокі" Георгі М. пераканаў даць дэталі. Ілюстрацыйны здымак.

Яго сына прыгаварылі да трох год калоніі.

Прыгавор абскарджаны і апратэставаны. Ён не ўступіў у законную сілу. Апеляцыя будзе разглядацца ў судзе вышэйшай інстанцыі, які можа вынесці новае рашэнне або пакінуць яго без змянення. Дата разгляду пакуль не прызначаная.

### Сваю віну не прызналі

Усяго Георгію М. ставілі ў віну 34 эпізоды злачыннасці. Па ўсіх суд Маладзечанскага раёна прызнаў яго вінаватым.

Нягледзячы на непрызнанне віны, суд палічыў яе даказанай сукупнасцю неаспрэчных доказаў. Сярод іншага, яго віну даказалі аўдыёзапісы перагавораў з пацярпелымі. Сына і бацьку прызналі вінаватымі ў махлярстве і падбухторванні да хабару.

Паводле прыгавору суда Маладзечанскага раёна, па сукупнасці злачынстваў шляхам частковага накладання прызначаных пакаранняў канчаткова Георгію М. суд прызначыў пазбаўленне свабоды на дзевяць год з адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці.

Яго сыну Артуру М. прызначылі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на тры гады ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці.

Агульная сума шкоды паводле прыгавору – 52 тысячы рублёў. Яшчэ суд пастанавіў спагнаць з Георгія на карысць дзяржавы больш за 19 тысяч рублёў. Канфіскацыя ўсёй маёмасці – гэта дадатковае пакаранне суда.

Сярод рэчавых доказаў справы – копіі распісак, смс-паведамленняў, копіі крэдытных дагавораў.

Георгію 55 год. Ён пацярпеў ад аварыі на ЧАЭС, мае пагашаную судзімасць.

**У 1999 годзе быў судзімы па трох артыкулах: злоўжыванне ўладай ці службовым становішчам, бяздзеянне ўлады і атрыманне хабару.**

Яго сыну Артуру 27 год. Працаваў тэхнікам у ЖРЭУ №4 "Камунальніка". Мае судзімасць, якая дзейнічае, – за падробку дакументаў.

### 34 злачынствы

У некаторых з махлярскіх спраў Георгія М. фігуруе яго сын Артур. Злачынныя дзеянні, разгледжаныя прыгаворам, адбываліся ў 2012–2016 гадах. Ён пазычаў грошы і не вяртаў, прапаноўваў быць пасярэднікам з ДАІ і перадаць ім хабар і іншае. Ніжэй пералік злачынстваў, якія прахадзяць па прыгаворы.

Паабяцаў дапамагчы вырашыць пытанне аб непазбаўленні правоў на кіраванне тром грамадзянам на агульную суму амаль тры тысячы рублёў. Плюс яшчэ браў грошы для дачы хабару супрацоўнікам ДАІ. За садзейнічанне ў здачы экзамену на правы ўзяў больш за адну тысячу рублёў. А пасля для дачы хабару яшчэ столькі ж.

Георгі М. быў сузаснавальнікам фірмы "Эдальга-99". У 2014 годзе быццам бы рамантаваў адзін з офісаў у Маладзечне. Ад заказчыка браў грошы на будаўнічыя матэрыялы, пажарную сігналізацыю, закупку бетону, праектныя работы, бензін і пракладку водаправода – усяго больш за пяць тысяч рублёў. Патрэбныя работы не выконваў.

У магазіне аўтазапчастак злоўжываў даверам і пераканаў даць дэталі для джыпа "Гранд-Чарокі" на 214 рублёў. Праз злоўжыванне даверам завалодаў грашыма чатырох грамадзян на агульную суму больш за 5500 рублёў.

Ад верасня 2015 года Георгі працаваў загадчыкам інтэрната прадпрыемства "Будаўнік-169".

21 чалавеку ён паабяцаў засяліць у інтэрнат, атрымаўшы грошы на агульную суму больш за 35 тысяч рублёў. У некаторых грошы браў разам з Артурам.

Георгі М. сваю віну не прызнаў. На судзе сказаў, што грошы ад пацярпелых не браў, а навошта яны пра яго хлусяць, не ведае. Яго сын таксама не прызнаў віну.

### Казаў, што мае сувязі як былы супрацоўнік ДАІ

Як мог Георгі М. пераканаць людзей, што ўпаўнаважаны вырашыць пытанні з правамі кіроўцы і здачай экзаменаў? Гэта патлумачыла старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна **Вікторыя Паляшчук**:

– Раней Георгі М. працаваў у Маладзечанскай дзяржаўтаінспекцыі. Пераконваў пацярпелых, што захаваліся кантакты. Яму верылі.

Старшы памочнік пракурора патлумачыла, што прыгавор мог быць больш мяккім пры дзвюх умовах – добраахвотнай кампенсацыі шкоды і чыстасардэчнага раскаяння.

З сумы шкоды 52 тысяч рублёў Георгі М. да суда кампенсаваў 4 500 рублёў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## За парнаграфічны ролік у сацсетках валожынцу пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі

**ВАЛОЖЫН**

На 28-гадовага валожынца ўзбудзілі крымінальную справу за тое, што ён размясціў на старонцы ў сацсетках парнаграфічны ролік.

Яго старонка была ў свабодным доступе для карыстальнікаў. Ролік паглядзелі 20 чалавек.

Відэа заўважылі супрацоўнікі УУС і паведамілі пра яго ў Валожынскі РАУС, які пачаў праверку. Ролік адправілі на праверку ў Рэспубліканскую экспертную камісію па папярэджанні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці. Экспертыза пацвердзіла, што відэа мае парнаграфічны змест, ненарматыўную лексіку.

Акрамя гэтага супрацоўнікі міліцыі агледзелі камп'ютар і тэлефон мужчыны, каб праверыць, ці мог ён праз гэтыя прыстасаванні паказваць ролік іншым асобам. Відэа парнаграфічнага зместу на іх не было.

За распаўсюджанне відэа парнаграфічнага характару валожынцу пагражае пазбаўленне волі ад 2 да 4 гадоў.

Мужчына разведзены, мае дзіця. Пяць гадоў жыве з жанчынай, летам яны меркавалі ўзяць шлюб.

Пра гэта расказала старшы следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# У даўгінаўскай школе абралі лепшага вучня

ВІЛЕЙКА

**Для таго, каб заваяваць званне “Вучань года”, даўгінаўскім школьнікам трэба добра вучыцца, паспяхова ўдзельнічаць у конкурсах, алімпіядах, канферэнцыях, спаборніцтвах.**




Дзяніс Яскевіч – Вучань года-2017.

За гэты прэстыжны статус змагаліся 20 вучняў даўгінаўскай школы.

Конкурс “Вучань года” зладзілі тут у пачатку лютага. Яго прымеркавалі да 155-гадовага юбілею школы і да Года навукі.

За некалькі дзён вучні-ўдзельнікі ад 2 да 11 класа падалі заяўкі і падрыхтавалі свае партфоліа. У іх хлопчыкі і дзяўчынкі размясцілі фотаздымкі, дыпломы, малюнкі, розныя вырабы і іншыя доказы сваіх поспехаў.

Усяго ў аргкамітэт конкурсу падалі 20 заявак і столькі ж аформленых у творчай форме партфоліа.

Калі члены журы пазнаёміліся з матэрыяламі, то правялі ўрачыстую цырымонію ўзнагароджання. Яна адбылася ў актавай зале школы.

### З дваццаці лаўрэатамі сталі дзевятнаццаць

Лаўрэатамі конкурсу сталі 19 вучняў. Іх узнагародзілі ў розных намінацыях. У намінацыі “Разумнікі і разумніцы” за поспехі ў вучобе адзначылі **Аляксандра Пратасевіча**, **Валерыю Віркоўскую** і **Кацярыну Красоўскую**.

Лепшымі ў намінацыі “Інтэлект і творчасць” сталі **Анастасія Ляшковіч**, **Дыяна Седая**, **Мацвей Кароль**.

Адзначылі хлопцаў, якія паспяхова займаюцца фізкультурай, удзельнічаюць у школьных і раённых спартыўных спаборніцтвах. **Яўгена Гапановіча**, **Ягора Зарэцкага** і **Арцёма Анкуду** адзначылі ў намінацыі “Спартыўны п’едэстал”.

Зусім нядаўна пачаўся школьны шлях для самых маленькіх удзельнікаў конкурсу. Вучні пачатковых класаў **Антон Сакалоўскі** і **Марыя Жаўток** атрымалі свае ўзнагароды ў намінацыі “Паспяховы дэбют”.

**Лізавету Бяльковіч**, **Алесю Каралёву**, **Ганну Сяліцкую**, **Анастасію Паплёўку**, **Дыяну Скадыню**, **Ілллю Тонкавіча** адзначылі як “Надзею школы. А ў намінацыі “Лепшае партфоліа” перамаглі **Сафія Пратасевіч** і **Крысціна Аксючыц**. Усіх лаўрэатаў конкурсу ўзнагародзілі дыпломамі і салодкімі падарункамі.

### Вучань года Дзяніс Яскевіч: трэба заўсёды імкнуцца ўверх

Але хто ж стаў абсалютным пераможцам конкурсу. Хто ён – самы лепшы вучань у Даўгінаве?

Тут рашэнне журы было адзінадушным. Абсалютным пераможцам стаў вучань 11 класа **Дзяніс Яскевіч**.

Хлопца ведаюць у школе як выдатніка вучобы, пераможцу раённай і абласной прадметнай алімпіяды па фізіцы. Прычым перамагае там даўгінаўскі вучань на працягу трох гадоў.

Дзяніс удзельнічаў і перамагаў у раённым і абласным конкурсе работ вучняў даследчага характару, конкурсе “Энергамарафон”. Яшчэ ён добры спартсмен, удзельнік і пераможца спартыўных спаборніцтваў.

Не так даўно ў раёне ладзілі конкурс тэхнічнай творчасці для школьнікаў “Думаем, ствараем, вынаходзім”. Там Дзяніс Яскевіч перамог у намінацыі “Тэхнічнае мадэляванне” і прывёз дыплом другой ступені.

**Дзяніс – творчы чалавек, член раённага маладзевага парламента. А яшчэ гэта надзейны сябар, добразычлівы чалавек, станоўчы прыклад для ўсіх вучняў у сваіх паводзінах і старанні.**

Кульмінацыйным момантам цырымоніі стаў зварот Вучня года-2017 Дзяніса Яскевіча да аднагодкаў і малодшых таварышаў. Пераможца ў ненадакучлівай форме патлумачыў прысутным, што трэба выкарыстоўваць кожны момант жыцця, кожны ўрок, які праводзім у школе.

Трэба, каб атрыманыя ў школе веды сталі тваім унутраным здабыткам, лічыць Дзяніс.

На цікавых прыкладах хлопец даказаў прысутным вучням, што можна беспярэпынна ўдасканальвацца нават з дапамогай наяўных амаль у кожнага сродкаў: смартфонаў, гаджэтаў, камп’ютараў.

– Заўсёды трэба імкнуцца ўверх, нягледзячы на тое, дзе ты жывеш і што з табой адбываецца, – перакананы выпускнік.

Дзяніс падзякаваў сваім бацькам і педагогам, якія былі побач з ім на працягу шэрагу гадоў і дапамагалі на нялёгкім шляху да поспеху.

Напрыканцы цырымоніі дырэктар школы **Іван Навуменка** аб’явіў, што ўсе вучні даўгінаўскай школы і іх бацькі змогуць у бліжэйшы час пазнаёміцца з прадстаўленымі на конкурс партфоліа на класных гадзінах і бацькоўскіх сходах.

Магчыма, кагосьці гэта натхніць на тое, каб пачаць працу над зборам уласных дасягненняў і ўзнагарод.

Конкурс працягваецца і чакае новых імёнаў.

**Дзмітры МАШОНСКІ, вучань 11 класа Даўгінаўскай сярэдняй школы.**

## Дашлі эсэ і выйграй смартфон

**“Рэгіянальная газета” сёлета паўтарае конкурс для школьнікаў, падобны на які праводзіла летась.**

Удзельнічаць у ім могуць вучні школ і гімназій рэгіёна, у якім выходзіць “РГ”: Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага, Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага і Маладзечанскага раёнаў.

Вучні могуць даслаць эсэ на скрыню regionnews@rh.by або па пошце на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, “Рэгіянальная газета”. На пісьме зрабіце пазнаку “Конкурс эсэ”.

Эсэ павінны быць напісаныя на беларускай мове на адну з тэм на выбар: “Як бы я правёў тыдзень на бязлюдным востраве”, “Якую рэч трэба вынайсці”, “Як я магу зарабіць мільён”, “Якім павінна быць першае спатканне”, “Дзень, калі я закончу школу” ці “Маё любімае беларускае слова”.

**Паспяшайцеся, апошні дзень прыёму эсэ – 13 сакавіка.**

У лісце разам з эсэ пазначце:
- імя і прозвішча
- клас і школу
- населены пункт
- нумар тэлефона свой ці бацькоў (дамашні ці мабільны)
- імя, імя па бацьку і прозвішча класнага кіраўніка або настаўніка беларускай мовы і літаратуры (рабочы або мабільны)
- некалькі сказаў пра сябе – захапленні, мары, справы ў школе.

Усе дасланыя эсэ пройдуць папярэдні адбор рэдакцыі.

Работы з вытрыманымі патрабаваннямі, якія прайшлі адбор, мы размесцім на нашым сайце rh.by. Сярод іх анлайн-галасаваннем чытачоў адбяром працы, якія пройдуць у фінальны этап. Галасаванне будзе доўжыцца ад 16 да 20 сакавіка.

Фінал конкурсу правядзём у рэдакцыі. На ім могуць прысутнічаць удзельнікі. Сярод фіналістаў пераможцу вызначыць латарэя. Дату фіналу абвесцім пазней.

Рэдакцыя можа выключыць работу з конкурсу ў выпадках нядобрасумленнасці ўдзельніка.

Жадаем поспеху!

**Рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”.**

## Раскажы пра адпачынак і выйграй фотаапарат

**Летась вы з’ездзілі на мора, у іншую краіну або пакаталіся па Беларусі ці рэгіёне? Вы можаце за гэта яшчэ і падарунак атрымаць!**

Раскажыце, куды і з кім вы ездзілі, чым вас уразіла падарожжа. Што смешнага з вамі адбылося і якія стравы сталі кулінарным адкрыццём? Дайце парады тым, хто сёлета адправіцца ў вандроўку вашым шляхам. Прыкладзіце 2-3 фота, раскажыце, у які бюджэт можна ўкласціся пры такім адпачынку.

**Дасылайце аповеды на скрыню regionnews@rh.by да 13 сакавіка.**

У тэме ліста абавязкова пазначце “Конкурс пра адпачынак”.

У лісце пазначце:
– імя і прозвішча
– населены пункт, у якім жывяце
– мабільны нумар тэлефона
– род заняткаў
– з кім ездзілі
– у якіх месцах пабывалі падчас падарожжа
– у які бюджэт уклаліся і прыкладна як яго размеркавалі.

Рэдакцыя правядзе папярэдні адбор апавяданняў пра адпачынак. Тыя працы, якія мы прымем да конкурсу, будуць размешчаны на сайце rh.by. Сярод іх галасаваннем чытачы абяруць фіналістаў. Галасаванне будзе працаваць ад 18 да 22 сакавіка.

Затым сярод фіналістаў мы абяром пераможцу праз латарэю. Удзельнікі конкурсу змогуць прысутнічаць на розыгрышы.

Пераможца атрымае фотаапарат, які спатрэбіцца ў далейшых падарожжах. Ён не толькі зафіксуе важныя моманты, але і адразу раздрукуе фота.

Рэдакцыя можа выключыць удзельніка з конкурсу ў выпадках яго нядобрасумленнасці.

**Рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”.**

# "Пасадзіце яблыньку на маёй магіле"...

## Да 115-годдзя з дня нараджэння мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай

**Гэта вялікае шчасце ўспамінаць нашу незабыўную пані Ядзю, мастачку Ядвігу Іосіфаўну Раздзялоўскую.**






Партрэт Ядвігі Раздзялоўскай работы Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага перадаў у рэдакцыю разам з гэтымі словамі Юрась Церабун. "Гэта вам для роздуму...", сказаў маэстра.

Усе, хто быў знаёмы з ёй, памятаюць, якім светлым, таленавітым чалавекам яна была. Мы заўсёды стараемся памятаць аб тым, што мы яе вучні ў мастацтве і паўсядзённым жыцці.

Нарадзілася Ядвіга Іосіфаўна ў Польшчы, у горадзе Бяла-Падляска. У Лодзі і Варшаве атрымала на той час добрую мастацкую адукацыю.

Валодала некалькімі замежнымі мовамі, іграла на фартэпіяна, пісала вершы і шмат малявала.

Яе любімым кампазітарам быў **Фрэдэрык Шапэн.** Невыпадкова яны ўдваіх нарадзіліся ў першы дзень вясны, 1 сакавіка.

Цяжкія гады вайны закінулі яе ў Беларусь, дзе Ядзя Лясьеўская сустрэлася з цудоўным чалавекам, сваім будучым мужам **Вадзімам Андрэевічам Раздзялоўскім.**

Некаторы час жылі ў Баранавічах. Потым мужа пераводзяць на працу галоўным эканамістам Маладзечанскага гармалзавода, і яны былі вымушаны пераехаць у Маладзечна.

Пары выдзелілі двухпакаёўку на вуліцы Віленскай, дом №5.

### Мастаку дадзена бачыць за палатном тое, што глядач не бачыць на палатне

Мясцовыя мастакі сталі знаёміцца паміж сабой, і ў іх узнікла думка стварыць у Маладзечне студыю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва для дарослых пры абласным Доме народнай творчасці. Кіраўніком на той час быў паэт, рэжысёр, вядомы энтузіяст культуры **Віктар Іванавіч Носаў**.

Выкладчыкамі студыі сталі: Ядвіга Раздзялоўская, **Кастусь Харашэвіч, Эмір Асановіч, Павел Герасіменка, Сямён Кісель.**

Без усякай аплаты яны праводзілі свае заняткі. Нават калі ў Ядвігі Іосіфаўны цяжка захварэў муж, яна прыходзіла, згодна з раскладам, праводзіць свае ўрокі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

У гэты час мне і давялося быць вучнем студыі. Сярод іх былі **Юрась Герасіменка, Васіль Лазоўскі, Іван Смальякоў, Пётр Дземаў, Ірэна Ханеўская**.

У студыі былі нават тыя, хто пасля працы на заводзе прыходзіў вучыцца, напрыклад, як родныя браты **Бараўцы**.

Нам вельмі важнымі былі гутаркі нашых выкладчыкаў пра тое, як захапляцца прыгожым і разумець яго, як трэба пводзіць сябе на выставах.

У Маладзечне пачалі праходзіць першыя выставы.

На адной з выстаў глядач пытаецца:

– Что это за мазня? Объясните нам.

Аўтар, для інтрыгі не буду называць яго прозвішча, вядомы беларускі мастак, родам з Маладзечна, кажа:

– Мастаку дадзена за палатном бачыць тое, што звычайны смяротны не ўбачыць на палатне.

І раптам крык з другога боку залы:

– Нет, извините! Вы кому рисуете? Советскому человеку и с какой стороны?

Мне было вельмі няёмка ад нявыхаванасці гэтага мясцовага чыноўніка.

Калі ў горадзе пачаў працаваць афарміцельскі цэх Мінскага абласнога вытворчага камбіната Саюза мастакоў БССР, пра Маладзечна загаварылі як пра горад мастакоў.

Загучалі такія імёны: **Рыгор Нарчук, Генадзь Селядзец, Алесь Пашкевіч**, Васіль Лазоўскі, **Пётр Лазоўскі, Пётр Гулевіч, Вячаслаў Палівода, Яўген Шчарбіцкі, Віктар Камлюк, Іван Смальякоў, Мікола Аўчыннікаў, Рыгор Мяжуеў, Святлана Багрыцэвіч.**

Да 90-годдзя з дня нараджэння **Максіма Багдановіча** Юрасю Герасіменку-Жызнеўскаму прыйшла думка стварыць у нашым горадзе клуб аматараў мастацтваў, аб'яднаўшы ў адну суполку мастакоў, літаратараў і музыкантаў.

Старшынёй абралі мяне, а базай клуба стала дзіцячая музычная школа.

Для выставы Юрась з вучнямі студыі, якую ён тады вёў, выканалі вітражы па матывах паэзіі Максіма Багдановіча. Іх размясцілі ў спецыяльна зробленых скрынкі і падвялі асвятленне.

На сцэне прамоўцы: кандыдаты гістарычных навук **Мікола Ермаловіч** і **Генадзь Каханоўскі** і **краязнаўца Вячаслаў Ляшковіч**.

Ён паставіў мемарыяльны камень, пасадзіў Максімаў сад і вярнуў людзям крынічку ў вёсцы Ракуцёўшчына. Менавіта ён прапанаваў правесці першае свята паэзіі ў Ракуцёўшчыне. Я пагадзіўся, і з таго часу не адзін дзясятак гадоў яно праходзіць штогод.

Мне вельмі захацелася правесці вечар з паэтычнай назвай "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы" ў Яхімоўшчыне.

У фае вясковага клуба зрабіў фотавыставу "Песняры зямлі беларускай" з уласных здымкаў па мясцінах **Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча** і Максіма Багдановіча.

Некалькі месяцаў на слайды здымаў ваколіцы Яхімоўшчыны і яе жыхароў.

**Роберт Целяпнёў**, удзельнік тэлевізійнага слайд-клуба "Спектр" пад кіраўніцтвам франтавога фотакарэспандэнта **Аляксандра Дзітлава**, аздобіў фільм сваімі таленавітымі кадрамі.

Лічу за вялікі гонар, што меў шчаслівую магчымасць іграць на сваіх родных беларускіх цымбалах у гэтым маляўнічым куточку купалаўскай зямлі.

У рэспубліцы віравала мастакоўскае жыццё. Мы ганарыліся нашымі маладзечанскімі мастакамі.

Ніколі не забуду, калі каля карціны "Мат" Ядвігі Раздзялоўскай на выставе ў Палацы мастацтваў раздаваліся бурныя апладысменты. Твор быў напісаны да Дня Перамогі. На карціне шахматная дошка. Чорны кароль заціснуты ў кут белымі пешкамі. Нервова раскіданыя шахматныя фігуры і велічна гучыць букет палявых кветак.

На адной з выстаў у Мінску народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесар, скульптар **Анатоль Анікейчык** сказаў:

– Нацюрморты Ядвігі Раздзялоўскай могуць вісець у лепшых карцінных галерэях Еўропы.

### "Маэстро, вы неисправимы"

Нялёгкім было жыццё ў пані Ядзі. Маляваць даводзілася ў кватэры, паставіўшы твор на ложак.

У Гарачым Ключы Краснадарскага краю Саюз мастакоў СССР выдзеліў ёй кавалачак зямлі пад творчую майстэрню, дачу.

З Беларусі вазілі дошкі, вокны, дзверы, шкло, шыфер, цвікі, каб зляпіць хатку.

Потым яна там і малявала. Прывозіла рулоны твораў, якія тут мы нацягвалі на падрамнік і афармлялі ў рамы.

Серыю твораў "Дагестан" і некалькі нацюрмортаў яна падарыла сваёй радзіме, Польшчы.

Польскі бок з радасцю прыняў такі падарунак з рук землячкі, узнагародзіўшы яе ганаровым знакам "Заслужаны для культуры Польскай".

На вялікі жаль у Беларусі ёй не знайшлося ні ганаровага звання, ні ўзнагарод.

Я не мастацтвазнаўца, але лічу яе гонарам беларускага выяўленчага мастацтва.

Толькі ў 80-гадовым узросце ў Маладзечне ёй выдзелілі майстэрню. Калі тут ужо было маляваць!

Па чарзе раніцай мы адводзілі яе ў майстэрню, а вечарам забіралі.

Сотавых тэлефонаў тады не было, і цэлы дзень на працы душа хвалюецца.

Ёй вельмі дапамагалі Юрась і **Валянціна Герасіменкі**, пані **Люся Зільберт** з Мінска і швагерка **Алімпіяда Чычуліна** з Каломны.

Пані Ядзя любіла тонкі гумар і сама магла пажартаваць.

Аднойчы на эцюдах у Гальшанах мы вырашылі пагрэцца, бо была халодная і дажджлівая восень.

Эцюднік на ножках з закрытай накрыўкай – гэта наш стол. Газета – абрус.

Метраў за 50 Ядвіга Іосіфаўна ўжо працуе. Мы клічам яе снедаць, а яна ў адказ:

– Ребята. Я с утра не употребляю.

Стала так сорамна, што мы разабралі свой нацюрморт, паклалі яго ў сумкі і пайшлі займацца кожны сваёй справай.

Альбо такі выпадак. Першага сакавіка мастакі заўсёды збіраліся ў пані Ядзі. Яна пытаецца ў мяне:

– Сколько вы думаете брать алкоголя?

– Чым больш, тым лепш.

Пасля паўзы:

– Много алкоголя на столе – низкая культура.

– Яно то так: але калі на стале адна культура, а алкаголю няма, таксама дрэнна.

– Маэстро. Вы неисправимы.

А размова ішла пра дзве бутэлькі віна, якія я павінны быў выкупіць у вялізнай чарзе па талонах.

Аднойчы ў магазіне "Юбілейны" да мяне падышла мама вучаніцы:

– Вы купляеце для мастачкі?

– Так.

– Падыдзіце ў аддзел цукерак, толькі не заўважна, я вам дам для яе кавалачак варанай кілбасы. Так я і зрабіў.

З парога крычу:

– Ядвіга Іосіфаўна. Паглядзіце, якое багацце я прынёс.

Дапытаўшы мяне строгім голасам, сказала:

– Нет людям. Не надо и мне. Прошу вас, больше никогда так не делайте.

Перажылі мы з ёй усё: і талоны, і купоны, і картачкі. Але яна ніколі не скардзілася на Беларусь.

Страціўшы мужа, яна значна паслабела. Але хадзіла без кіёчка. Калі было трэба, брала з сабой сумку на колцах, на яе і абапіралася.

Вясной адсвяткавалі яе 90-годдзе, а восенню яе не стала.

Юрась Герасіменка тады сказаў, што трэба неяк зрабіць надмагільны помнік і мемарыяльную дошку са сціплага мікашэвіцкага каменя.

Пайшлі ў выканкам да **Яфіма Ідэльчыка**. Той ветліва нас сустрэў, запрасіў **Паліну Вашкевіч**. Інтэлігентным людзям не давялося доўга тлумачыць, хто такая Ядвіга Раздзялоўская.

Нам сказалі:

– Рабіце ўсё, як лічыце патрэбным, а грошы мы вам знойдзем.

Юрась выканаў эскізы, неўзабаве мы ўсё ўстанавілі.

Праз некаторы час не стала і самога Юрася.

Горад нібы асірацеў.

* * *

Як нам хочацца мець у горадзе выставачную залу і выканаць партрэт Ядвігі Раздзялоўскай з бронзы ў дапаўненне да мемарыяльнай дошкі на доме па вуліцы Віленскай, 5.

Дзіцячая мастацкая школа мастацтваў просіць надаць ёй імя Ядвігі Раздзялоўскай.

Юрася Герасіменку-Жызнеўскага трэба ўвекавечыць мемарыяльнай дошкай з бронзы на доме, дзе ён жыў на вуліцы Прытыцкага.

Мы не просім ні манументы, ні фантаны. Мы просім увекавечыць іх памяць і аддаваць даніну павагі славутым Беларускім Мастакам.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**музыкант, мастак.**




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Мікалаю Рыгоравічу БАРЗЫКУ з Маладзечна!**



**З юбілеем, дарагі сват!**

*Поздравляем с днем рождения*
*Тебя, сват наш дорогой,*
*И желаем, чтобы в жизни*
*Был доволен ты судьбой.*
*Чтобы радовали дети,*
*Полной чашей был твой дом,*
*Чтобы счастье и удача*
*По соседству жили в нём.*
*Добротою и любовью.*
*Чтобы был твой дом согрет.*
*В жизни, сват, тебе желаем*
*Долгих и счастливых лет.*

**З павагай, сваты**
**Мікалай і Наталля Сянько.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- БМВ, 1992 г.в., газ-бензін, 3000 бел. руб., торг. Т. МТС (8-029) 2241522.
- ВАЗ-2103, 1978 г.в., Вілейка. Т. (8-029) 1214671.*
- Рэно-Кенга, 1999 г.в., 1,5 дсі на запчасткі. Т. (8-029) 3400623.*
- ФВ-Джэта 1990 г.в., 1,6Б, добры стан, новая гума, 2350 руб., торг. Т. (8-0440 4703638.
- ФВ-Пасат, 1992 г.в.,16D па запчастках. Т. (8-033) 3363343.*
- Форд-Мандэа, 1993 г.в., 1,8 бензін, хэтчбэк, колер шэра-зялёны, 2600 руб. Т. (8-029) 5589418. Тэлефанаваць пасля 18.00.
- Чэры-Тыга, красовер, 2010 г.в., 1,8Б, 8800 руб. Т. (8-029) 5676832.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

**Молодечненский торгово-экономический колледж** ПРИГЛАШАЕТ
04 марта 2017 года в 10.00 на
**ДЕНЬ открытых дверей**
Тел. для справок (8-0176) **77-01-51**
УНП 600095711

- Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

**Купим АВТО в любом состоянии, расчёт на месте. Тел. (8029) 844 40 04**

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Камп’ютарная дыягностыка аўто, чып-цюнінг, аднаўленне шаравых апор, выдаленне ЕГР, сажавага фільтра, каталізатара. chipauto.by ПУП “ЛенВіРо” УНП 691505812 Т. (8-029) 3426222.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 3/5; выдатнае месца ў цэнтры, добры рамонт. Т. (8-029) 6152423.
- 2-пакаёвая кватэра па вул. Я Купалы ў Маладзечне; гараж у 12 кааператыве. Т. Вэлком (8-029) 6815453.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Мядзеле. Т. (8-029) 5010538.*
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Залессе; агарод, гаспадарчыя пабудовы, тэлефон. Т. Вэлком (8-029) 6125469.*
- 3-пакаёвая кватэра ў раёне Зеніт у Вілейцы. Т. (8-025) 9215866.*
- 3-пакаёвая кватэра, 73,4 кв.м, цэгла, 2 балконы 3 м, цэнтр Смаргоні. Т. (8-029) 6689483.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Крынічнай, д.25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвы аднапавярховы ўтульны дом 84,6 кв.м у в. Вытрапаўшчына Маладзечанскага раёна, 2010 г.п., усе выгоды. На 18 сотках: сад, вадаём, гараж са склепам. Цана дагаворная. Т. (8-029) 6048021 пасля 17-00.*
- Гараж у ГБК №2 у Маладзечне па вул. Лебедзеўскай. Т. (8-029) 6768232.*
- Гараж у ГБК-2, нядорага. Т. (8-029) 6842528.*
- Гараж у ГК “Ізбіна” у Вілейцы. Т. (8-029) 1214671.*
- Гараж у ГК № 24 г. Маладзечна. Т. (8-029) 2567370.*
- Дом на беразе возера.Т. (8-01771) 28717.
- Дом у в. Баранцы Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1201068.*
- Дом у в. Цынцавічы. Т. (8-033) 6026455.*
- Дом у вёсцы Кардон Вілейскага раёна (лазня, калодзеж), участак 14 сотак. Побач лес, рэчка. Т. (8-029) 2928728.
- Дом у вёсцы Мамаі Вілейскага раёна на беразе ракі Вілія. Плошча 43 кв. м, на 22 сотках зямлі вялікі сад. Т. (8-01771) 71166, (8-025) 5223147.*
- Дом у Вілейцы каля ракі. Т. (8-01771) 35233, (8-029) 7616986.*
- Дом у Вілейцы, драўляны, ацяпленне, вада. Т. (8-029) 7589686.
- Дом у цэнтры Маладзечна, драўляны, газ, вада. Т. (8-029) 6691789.*
- Катэдж у в. Цюрлі каля Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 3635351.
- Участак з домам у в. Порса Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1214671.*
- Частка дома (можна пад дачу) у Вілейцы па вул. 17 Верасня, 31/52. Побач рынак, рэчка. Т. МТС (8-029) 8775320.

### КУПЛЮ

- 1-пакаёвую кватэру альбо дом у Мядзеле ці прыгарадзе. Нядорага. Т. Вэлком (8-029) 1463702.*

### ЗДАМ

- Пакой ў кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*
- У арэнду павільён 21 кв. м. у Маладзечне, гандлёвы рад вул. Л. Талстога. Цэнтр. Побач харчовы рынак. Т. (8-029) 5501920.

Вилейский опытный лесхоз ПРЕДЛАГАЕТ
**ДЛЯ ОТДЫХА ОХОТНИЧИЙ КОМПЛЕКС**
на берегу реки Вилия в урочище «Доманова»
(10 км от г. Молодечно и 8 км от г. Вилейка).

- ☑ Комфортные 2-х и 4-х местные гостиничные номера для проживания
- ☑ Банкетный зал вместимостью до 40 человек
- ☑ Баня, бассейн

*Стоимость проживания: 1 сутки с 1 чел. – 15-30 руб.*
Тел. (8-01771) **2-22-50**, МТС (8-033) **324-84-31**
УНП 600010664



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А..*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баяніст. Фота. Відэа. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абслугоўванне і рамонт камп’ютараў. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба**, ЛАЗНЯ.** vslobode.relax.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Антэны спадарожнікавыя: наладка, абслугоўванне. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, “АТЛАНТ“, BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП “Планета інтэлекту” УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

**ОБЪЕДИНЯЙТЕ И ПЛАТИТЕ МЕНЬШЕ**
КОНСОЛИДАЦИЯ КРЕДИТОВ
ПЛАТИТЕ МЕНЬШЕ · ПОЛУЧАЙТЕ ДЕНЬГИ · ОДИН БАНК ОДИН ПЛАТЕЖ
IdeaBank
Вилейка, **ул. 17 Сентября, 29** (Дом Быта)
+375 29 **644 34 73,** +375 29 **500 12 78**

**СТО** ООО “Авто-Мотор- Плюс” УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

**Вечерний Бобруйск**
Вашы аб’явы па продажу ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце “Вечерний Бобруйск”. Адна цана – дзве газеты!

# АККУМУЛЯТОРЫ
БАТРИКС
**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**
**ПРОДАЁМ НОВЫЕ И ПОКУПАЕМ СТАРЫЕ**
**проверка аккумуляторов с выдачей справки и протокола испытаний**
**ШИРОКИЙ ВЫБОР МАСЕЛ** моторных, гидравлических, индустриальных, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости
**ЗАПЧАСТИ К ИНОМАРКАМ**
ООО "Батрикс" УНП 691893243 Телефон в Молодечно (80176) **58-12-48**, (8029) **63-63-166** (Велком)

| **Тэлефонныя коды** | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

**Маладзечанскае раённае таварыства інвалідаў** ПРЫМАЕ **АДЗЕННЕ, АБУТАК** і іншыя **РЭЧЫ** для раздачы інвалідам.
*Маладзечна, вул. Вольная, 9.*
Тэл. (80176) **74-64-78**
(па аўторках і чацвяргах).

- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- **РЫТУАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ**: транспарціроўка новапрадстаўленага (най), пахаронная працэсія, пахаванне, арганізацыя памінальнага застолля. ІП Зяньчук Д.П. УНП 691181529. Т. (8-033) 3513691, (8-025) 5253144.
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ
### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С, ЦЭГЛА, ФБС. ДАСТАЎКА**. ЧП "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- **ВАГОНКА** (сасна, асіна, вольха), **ДОШКІ ДЛЯ ПАДЛОГІ**, шчыт мэблевы, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ**, плінтус, брусок і інш. ў Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. www.izlesa.by ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*
- Сетка-рабіца ацынкаваная. Т. (8-033) 6111186.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Прычэп трактарны 2ПТС-4 з дакументамі, 2200 рублёў. Т. (8-029) 3278170.
- Трактар Т-40 з дакументамі, 1700 руб. Т. (8-044) 7116688.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

- Камод, вуглавая канапа для кухні, стол круглы кухонны, усё новае, танна. Т. (8-0176) 765161, (8-044) 7517759.
- Камп'ютарны стол. Размер: 130х85х165 см. Т. (8-029) 1845892.*
- Спальны гарнітур "Шчара", б/у. Т. (8-0176) 535606, МТС 8596151.*
- Тахта-канапа ў выдатным стане, 450 руб. Т. (8-029) 1765815.

**Музінструмент**

- Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**
- Кабан свойскі. Т. Лайф (8-025) 7634686.

**Іншае**

- Валёнкі розных памераў. Т. (8-029) 8387154, (8-044) 4617756.
- Веласіпед. Т. (8-029) 5019550.*
- Добрае сена ў в. Абадоўцы Вілейскага раёна. Тэрмінова! Т. МТС (8-029) 7079054.*
- Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Такарны станок па метале. Т.(8-029) 2725536.

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, МАНЕТЫ, ГАДЗІННІКІ, ФОТААПАРАТЫ, САМАВАР, ФАРФОР, БІЖУТЭРЫЮ І ІНШЫЯ СТАРАДАЎНІЯ РЭЧЫ. ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7764214.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце **Rh.by**

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Драбіны (стремянку) алюмініевыя з рабочай вышынёй не менш за 4 м. Т. (8-029) 6927353.*
- Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.*

### ЗНОЙДЗЕНА



- **УВАГА!** Ключ замочны, нестандартны, самаробны, знойдзены ў Вілейцы ля басейна 19-га лютага. Шукайце па тэл. (8-029)-6550799.

### ІНШАЕ

- Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5606607, (8-029) 3796140.*

## ПРАЦА
### ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелачнік: вялікі досвед, тынкоўка, шпаклёўка, шпалеры, уцяпленне, адкосы, падлога, гіпсакардон і інш. Т. (8-029) 2775694.*
- Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*
- Кровельныя, аддзелачныя, зварачныя, дэмантажныя работы. Кладка блока, цэглы, сцяжкі. Электрыка. Спілоўванне дрэў. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.

### ПАТРАБУЮЦЦА

- Мантажнікі стальных металаканструкцый сэндвіч-панэляў. Т. (8-029) 2607921.*
- Сядзелка па доглядзе за жанчынай-інвалідам у раёне гімназіі №3 г. Маладзечна. Т. (8-029) 3607317, (8-0176) 776826.*

# Змяненні ў курсіраванні цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін




У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША - МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

**АДМЯНЯЮЦЦА**

### 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

адпраўленнем да ст. **Мінск** у ..................**7:36**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў .............**7:08**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

адпраўленнем да ст. **Мінск** у .......**8:59, 13:02**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў **11:36, 16:24**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5 сакавіка

адпраўленнем да ст. **Мінск** у ....**19:08, 19:48,**
**.........................................................20:54, 22:17**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...........**19:59**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5 сакавіка

У сувязі з пуцявымі работамі на ўчастку
**УША - МАЛАДЗЕЧНА**
**НАЗНАЧАЮЦЦА** цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .......**18:27**
прыбыццём на ст. **Мінск** у .......................**20:26**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .......**19:29**
прыбыццём на ст. **Мінск** у .......................**21:21**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў **.......20:20**
прыбыццём на ст. **Мінск** у .......................**21:58**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .......**21:44**
прыбыццём на ст. **Мінск** у .......................**23:27**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .......**11:12**
прыбыцём на ст. **Мінск** у .........................**13:04**

### 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

У сувязі з пуцявымі работамі на ўчастку
**МІНСК - МАЛАДЗЕЧНА**
назначаюцца цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў **........8:17**
прыбыццём на ст. **Мінск** у **......................10:21**

### 3, 4, 5, 6 сакавіка

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў **......12:35**
прыбыццём на ст. **Мінск** у **......................14:29**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у **.................11:33**
адправіцца ў **11:30**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў **.........13:27**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5 сакавіка

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем да ст. **Мінск** у .................**17:55**
**АДМЯНЯЕЦЦА**

назначаецца ў шляхі зносін
**АЛЁХНАВІЧЫ - МІНСК**
адпраўленнем са ст. **Алёхнавічы** ў ......**18:34**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ..................**18:15**
адправіцца ў ............................................**18:35**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ..............**20:19**

### 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ..................**04:39**
адправіцца ў ............................................**04:53**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ..............**06:26**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ..................**05:25**
адправіцца ў ............................................**05:49**
прыбудзе на ст. Маладзечна ў ..............**07:43**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...........**11:36**
прыбудзе ў ...............................................**12:07**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ..................**14:40**
адправіцца ў ............................................**14:17**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ..............**16:00**

### 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .........**4:17**
адправіцца ў ..............................................**4:12**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .........**5:12**
адправіцца ў ..............................................**5:08**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .........**5:42**
адправіцца ў ..............................................**5:35**

### 27, 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .........**9:58**
адправіцца ў ..............................................**9:48**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў .......**14:56**
адправіцца ў ............................................**14:51**

адпраўленнем са ст. Маладзечна ў ........**16:12**
адправіцца ў ............................................**16:07**

адпраўленнем са ст. Маладзечна ў ........**16:45**
адправіцца ў ............................................**16:40**

### 27, 28 лютага, 1, 2 сакавіка

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...........**13:18**
**АДМЯНЯЕЦЦА**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ..................**11:33**
адправіцца ў ............................................**11:30**

назначаецца ў шляхі зносін
**МІНСК-АЛЁХНАВІЧЫ-МІНСК ........................**
адпраўленнем са ст. **Алёхнавічы** ў **13:19**

### 3, 4, 5 сакавіка

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...........**14:35**
**АДМЯНЯЕЦЦА**

### 28 лютага, 1, 2, 3, 4, 5, 6 сакавіка

цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа на ўчастку **МАЛАДЗЕЧНА-ГУДАГАЙ**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў **........6:25**
адправіцца ў **..............................................6:37**
прыбыццём на ст. **Гудагай** у ....................**7:53**

**Тэл. для даведак (8-0176) 74-24-23, 105. Сайт rw.by.**






## Выйшаў трэці нумар краязнаўчага гадавіка "Вілейскі павет"

ВІЛЕЙКА

**Укладальнікі выдання – віляйчане, аўтары і сябры "Рэгіянальнай газеты" Дзяніс Канецкі і Сяргей Макарэвіч.**

На старонках зацікаўлены чытач знойдзе даследаванні пра мястэчка Ілья, даўгінаўскі тэатр, рыбалку на Вяллі.

**Сяргей Ганчар** распавядае пра вілейскага фотамайстра **Берку Бермана**, яго творчасць, сям'ю і трагічны лёс. А **Валеры Калясінскі** знаёміць з архівам яшчэ аднаго фатографа і вайскоўца – **Антона Сальвука**.

Успамінамі пра сябе і свае родныя мясціны дзеляцца паэтка **Клаўдзія Дубовік** і **Уладзімір Папковіч**, паэт, перакладчык, выкладчык Віцебскага ўніверсітэта, колішні выпускнік ільянскай школы.

Пра мастака **Уладзіслава Стрaмінскага** расказвае старшы навуковы супрацоўнік вілейскага музея **Вольга Коласава** і дачка мастака **Ніка Страмінская.**

У рубрыцы "Кніжная паліца" чытач па традыцыі пазнаёміцца з кнігамі вілейскіх творцаў, якія выйшлі летась.

Гадавік знаёміць з гісторыяй і людзьмі Вілейшчыны. Гэта мясціны, якія гістарычна ўваходзілі ў больш вялікі і старажытны рэгіён, які ахопліваў у часы ВКЛ Віленскае ваяводства. Гадавік выйшаў пра падтрымцы фонду "Вяртанне".

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Самай маладой чытачкай 2016 года стала Аляксандра Абрамовіч. Фота Наталлі ТУР.

## У кожнага чалавека павінны быць спіс са 100 кніг

МАЛАДЗЕЧНА

**16 лютага ў бібліятэцы "Верасок" падвялі вынікі традыцыйнага конкурсу, які ладзіць цэнтральная бібліятэка імя Багдановіча – "Чытач года -2016".**

Сёлета ўзнагароды чакалі сваіх пераможцаў у 12 намінацыях.

Мужчыны – адданыя чытачы бібліятэкі, – безумоўна, аказаліся пераможцамі ў камбінацыях "Дэтэктыў" і "Фантастыка". **Валер Абановіч і Уладзімір Маркаў** прызналіся, што любяць гэтыя жанры за таямніцы, за магчымасць акунуцца ў той свет, якога не існуе насамрэч.

А вось "Лэдзі жаночага рамана" **Алена Васілеўская** прызнаецца, што такія раманы таксама спосаб акунуцца ў казку, але для дарослых.

Аматаркай перыёдыкі сёлета стала **Вольга Кірэева**.

Яна расказала, што чытанне часопісаў для яе – гэта дэсерт.

– Калі мне трэба хутка атрымаць якую-небудзь параду, я чытаю спецыялізаваныя часопісы. Тут усё пад рукой, – дзеліцца Вольга Кірэева. – А для душы, для самаразвіцця люблю чытаць інтэрв'ю з зоркамі, са знакамітымі людзьмі. У сваіх інтэрв'ю яны часта ўзгадваюць нейкія творы, кнігі, фільмы. Я задумваюся: "Хм, калі такі чалавек прачытаў гэту кніжку, у гэтым, напэўна, нешта ёсць". І сама стараюся адшукаць гэту кніжку або паглядзець той фільм.

Самай маладой чытачкай 2016 года стала **Аляксандра Абрамовіч**.

Яна прызналася, што натхніў яе на чытанне фільм "Великий уравнитель".

– У гэтым фільме герой сказаў, што кожны павінны прачытаць свае 100 кніг. Я ўзяла гэта на ўзбраенне. А потым і не заўважыла, як гэты спіс стаў большым.

За 2016 год Саша прачытала 108 кніг.

"Самы тоўсты фармуляр" аказаўся ў **Тамары Барданкі**, а самым адданым чытачом бібліятэкі стаў **Павел Каралёў**.

Сёлета яму спаўняецца 80 гадоў. І больш за паўстагоддзя ён – чытач бібліятэкі.

Павел Усцінавіч расказаў, як аднойчы з-за кнігі ён трапіў на гаўптвахту. Было гэта ў арміі, Павел Каралёў чакаў па рацыі загаду начальства і вырашыў пачытаць. Так захапіўся, што не заўважыў, як у пакой зайшоў генерал. І пакараў салдата Каралёва за тое, што чытаў на баявым пасту.

Намінацыя "Сябра кнігі і бібліятэкі" дасталася **Алене Бахмуцкай**, а намінацыю "Самая чытаная пара" забралі сабе **Леанід** і **Галіна Ракі**.

Асобная намінацыя была прысвечаная "Аматару беларускай літаратуры". Ёй сёлета стала **Тэрэса Шчукіна.**

Яна, у адрозненне ад аматара часопісаў Вольгі Кірэевай, прызналася, што для яе чытанне беларускіх часопісаў "Дзеяслоў", "Полымя", "Нёман" – не дэсерт, а асноўная "страва".

– Чытаць па-беларуску пачала тады, калі ў мяне падрасталі дзеці. Неяк у размовах стала заўважаць, што яны не ведаюць беларускіх пісьменнікаў, не разумеюць беларускіх слоў. Давялося прывучваць іх да літаратуры, да мовы, да культуры. Так уцягнулася і сама.

А самай галоўнай намінацыяй "Чытач года" ўзнагародзілі маладзечанца **Дзмітрыя Ермаковіча**.

У 2016 годзе ён прачытаў больш за 150 кніг. Пераважна гэта былі кнігі на ваенную тэматыку: дзённікі, энцыклапедыі, проза.

Усіх чытачоў узнагародзілі каштоўнымі прызамі.

Закончылася ўрачыстасць чаяваннем. Таму што дзе яшчэ, як не за кубачкам добрай гарбаты, абмяркоўваць толькі што прачытаную кнігу?

**Наталля ТУР.**

# Выстава графікі:
## калі японец пераўтвараецца ў грузінскага пастуха

МАЛАДЗЕЧНА

**Першае, што кідаецца ў вочы, калі заходзіш у фае дзіцячай мастацкай школы – малюнак старога, пад якім быццам японскімі іерогліфамі напісана "Выстава Руса Ельяшэвіча".**



Фота Наталлі ТУР.

Выстава Руслана Ельяшэвіча будзе працаваць да 28 лютага ў фае дзіцячай мастацкай школы.

А навокал гучыць японская музыка.

16 лютага ўрачыста адкрылася выстава графікі маладзечанца **Руслана Ельяшэвіча.**

Руслану 32 гады. Гэта яго першая выстава. І ён зусім не мастак.

Так атрымалася, што здольнасці ў хлопца да малявання былі з дзяцінства, аднак адмысловую мастацкую адукацыю ён не атрымаў.

– Магчыма, гэта і да лепшага, – скажа пасля дырэктар мастацкай школы **Наталля Трус**, – здараецца, што тэарэтычныя веды і забіваюць тую прыродную непасрэднасць, якая павінна быць у сапраўднага мастака.

**Што прываблівае ў творах Руслана, дык гэта, што іх нельга не тое што зразумець, а нават убачыць з першага разу.**

Так атрымалася ў мяне і з "японцам". Калі падыходзіш да палатна бліжэй, заўважаеш, што гэта і не японец зусім. А з трэцяга разу бачыш, што ў валасах у старога авечкі.

– Гэта карціна пра грузінскага пастуха, – расказаў Руслан Ельяшэвіч. – А калі гаварыць пра агульную тэматыку выставы, то я назваў яе зборнай салянкай. Імгненнем. Уражаннем. Бывае, ідзеш па горадзе, убачыш, напрыклад, дзіця. А яго позірк настолькі западае ў тваю душу, што прыходзіш дамоў, садзішся на балкон і малюеш карціну, сюжэт якой падказаў толькі позірк гэтага дзіцяці.

**– Малюеце на балконе?**

– Не заўсёды. Бывае, натхненне прыходзіць у чатыры гадзіны раніцы. Тады я больш люблю выходзіць на балкон, сустракаць світанак. І, не перашкаджаючы нікому, маляваць.

Адной з самых любімых работ з'яўляецца яго карціна "Чаканне".

Любы маладзечанец, гледзячы на карціну, лёгка ўзгадае тое скрыжаванне вуліц Валынца і Прытыцкага, дзе раней была праезная частка.

– Каля "Беларусбанка" святлафор ніколі не працаваў і заўсёды міргаў жоўтым. Для чаго ён там вісеў? Чаму не працаваў?

На адкрыццё выставы прыйшлі выкладчыкі мастацкай школы, маладзечанскія мастакі **Алена Кучко**, **Генадзь Селядзец**, **Рыгор Мяжуеў**. Давалі парады Руслану Ельяшэвічу, віншавалі з выставай, але калі папрасілі самога Руслана даць параду навучэнцам школы, той адказаў:

– Не бойцеся сапсаваць ліст. Галоўнае, пачаць, а потым першая лінія падкажа, што будзе далей. Не бойцеся эксперыментаваць. Адважвайцеся! Спрабуйце!

Выставу Руслана Ельяшэвіча можна паглядзець у фае дзіцячай мастацкай школы да 28 лютага.

**Наталля ТУР.**

## Выбраць лепшую масленічную ляльку, навучыцца рабіць птушак

### Як адзначаць Масленіцу ў рэгіёне



**У рэгіёне Масленіца пройдзе ў нядзелю, 26 лютага. Удзельнікаў чакае забаўляльная праграма, конкурсы, выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці.**

На святочных кірмашах удзельнікі змогуць набыць харчовыя тавары, кандытарскія вырабы, а таксама сувеніры. Традыцыйнымі будуць частаванне блінамі і спальванне пудзіла зімы.

**У Маладзечне** раённае свята "Масленка прыйшла – вясну прынясла" пачнецца ў 12:00 у парку культуры і адпачынку імя Перамогі.

Маладзечанцы змогуць пакатацца на конях, згуляць у "Бяспройгрышную латарэю" і пабыць на выставе дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Ашмянцы** прапануюць завітаць на свята ў гадзіну дня, яно адбудзецца на плошчы 17 Верасня. Увечары можна працягнуць урачыстую праграму на фальклорна-абрадавых вячорках "У нас сёння запусты". Мерапрыемства пачнецца а сёмай гадзіне вечара ў аграгарадку Навасёлкі.

**У Смаргоні** Масленіца адбудзецца ў 11:00 у гарадскім парку. Арганізатары прапанавалі прадпрыемствам паўдзельнічаць у конкурсе на лепшую масленічную ляльку, якую выберуць падчас урачыстасці.

**У Мядзеле** ўрачыстасць пачнецца ў гадзіну дня. Будзе працаваць фотазона "Масленічны карагод", майстар-клас "Масленіца-рукадзельніца" па вырабе птушак з розных матэрыялаў, гульнявая пляцоўка "Масленіца-вясялуха", а таксама карагодная пляцоўка "Масленічны карагод".

**У Валожыне** народнае гулянне пачнецца ў 10:00.

**У Вілейцы** ўрачыстасць пройдзе ў Ніжнім парку ў 12:00.

**А вось астраўчанам** прыйдзецца праводзіць зіму самастойна. Масленічныя ўрачыстасці не запланаваныя ў горадзе.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Пасаг Настулі



Фота забяспечанае Аляксандрам МАНЦЭВІЧАМ.

Беларускае вяселле ў 1917 годзе.

## Успаміны Мікалая Вdespite

Гэта было ў 1913 годзе. Да мяне на пашу аж пад Хвашчоўку прыйшоў наш сусед Іллюк і сказаў, што яго да мяне адправілі мае жонка і маці, каб тэрмінова вёў каня дамоў. Прыехаў я на кані дадому ў Касічы і пытаюся ў сваіх жонкі Вольгі і маці Міхаліны:

– Што здарылася, што Іллюка прыслалі па мяне?

– А нічога не здарылася. Трэба Іллюка завезці ў сваты ў вёску Каралеўцы. Яму аднаму не справіцца з чатырма дзецьмі: Яну – 8 гадоў, Стасі – 9, Соні – 6, а меншай Мані – толькі 1 год. Іх жа маці Паланея Кірмель памерла. Хай хоць мачаха ў іх будзе.

Завёз я тады Галіяша ў сваты ў Каралеўцы. Аб усім, як трэба, дамовіліся – і аб пасагу, і аб самым вяселлі. Вяселле вырашылі рабіць толькі ў дзеўкі, а не ў хаце ўдаўца.

Маладая Настуля жыла з братам. У іх бацькоў тады ўжо не было. Брат выдаваў сваю сястру Настулю замуж. Ішла яна на чатырох дзяцей. І апрача таго малады Іллюк яшчэ патрабаваў пасаг. Дамоўленасць аб вяселлі была такая. Застолле на вяселлі ўсё напалам. Гэта значыць, што жаніх са сваёй раднёй прывозіць сваю гарэлку і сваю закуску. Так і было зробленае тое беднае вяселле.

З Касічоў мы прыехалі ў Каралеўцы на некалькіх падводах, можа, на трох ці на чатырох – цяпер ужо не памятаю. Іллюк сказаў сваёй радні: "Да таго часу, пакуль я не атрымаю пасаг у свае рукі, каб яды на стале не чапалі". Ён меўся атрымаць спачатку грошы, потым пачынаць вяселле.

Прыехалі ў Каралеўцы, селі за стол і чакаем. Брат Настулі дастаў скрутак грошай і адлічыў пры ўсіх 50 рублёў. Аддаў Насці і сказаў: "Бяры, Насця, гэта твае. Нікому не аддавай. Іллюк старэйшы за цябе. Можа, ён скора памрэ, дык твае будуць". Іллюку тады было ўсяго 29 гадоў, а Настулі – каля 20-ці, можа, і 24.

Іллюк вельмі раззлаваўся, пачуўшы такую знявагу ад свайго будучага швагра, які састарыў яго ды яшчэ і грошы аддае не яму. Ён пачаў з шваграм таргавацца. Іллюк сказаў нам: "Уся мая радня, вылазьце з-за стала".

Пайшлі мы, касіцкія сваты, папасвацца каля чужых агародаў – дзе ягадку сарвём, дзе пер'ейку цыбулі ці лісце шчаўя адшчыкнём. Выйшаў на падворак Іллюк і сказаў мне: "Ты, Мікола, не вячэраў, а ўжо хутка пара палуднаваць. Ідзі вазьмі ў мяшку кумпяк".

Пайшоў я, узяў кумпяк, але адзін жа есці не будзеш. Дасталі мы гарэлку, сталі рэзаць кумпяк і хлеб ды на калёсах частавацца. А мы, вясковыя, не ганарлівыя. Якая для нас розніца дзе частавацца – за сталом у хаце ці на калёсах на падворку, каля плоту. Тады ж на двары цёпла было. Пасля выпітай чаркі са смакам яда з хлебам пайшла, і кумпяк чуць не ўвесь з'елі.

Мы сабраліся ўжо дамоў ехаць, калі Іллюку не аддадуць грошы. Выйшаў брат Настулі і забраў майго каня, бо ён быў лепшы, ды на замок у хляве закрыў. Майго каня ён забраў за прычыненую ім шкоду і сорам з такім вяселлем.

"Чорт яго бяры, – падумаў я.– Запрагу каня Іллюковага і паеду дамоў на яго, пакуль ён не выкупіць майго". А там у хаце спрачаліся малады са шваграм, аж за грудкі браліся. Звінела ў хаце ад мацюкоў, матку крылі. Але ж, нарэшце, Іллюку грошы аддалі, бо ён выйшаў і сказаў нам: "Пайшлі за стол вяселле гуляць. Нясіце кумпяк і гарэлку". – "Які кумпяк?! Яго амаль увесь з'елі. Гарэлка яшчэ ёсць".

Занеслі мы тое, што засталося. Больш ужо не спрачаліся ні з-за пасагу, ні за тое, што мы з'елі. Самі свае з'елі. Пачалося нешта падобнае на вяселле.

У Касічы мы ехалі на сваіх конях. А Іллюк на сваім вазку вёз маладую



Фота budzma.org.

Сучаснае вяселле ў этнастылі.

Настулю. Яна стала мачахай для чатырох дзяцей: Вані, Стасі, Соні і Мані. Пасля ў Настулі сям'я павялічылася яшчэ на дзвюх дачок – нарадзіліся Марыля і Люба. Апошняя, Люба, – толькі ў 1924 годзе.

**Сымон СТРУМЕНСКІ.**

**Заўвага.** Пра пасаг Настулі мне распавёў улетку 1976 года **Мікалай Сільвестравіч Варановіч,** 1885 года нараджэння. Для сучаснага чытача незразумелая велічыня таго пасагу ў 50 рублёў. У 1913 годзе добрую карову можна было набыць за 60 рублёў, а каня – за 70 рублёў. 50 рублёў можна было зарабіць за два месяцы работы на заводзе ці фабрыцы.

● КАЛЯНДАР

### 24 ЛЮТАГА

**115 гадоў** з дня нараджэння (1902) **Янкі Геніюша**, грамадскага дзеяча, бібліяфіла, доктара, вязня ГУЛАГу.

**95 гадоў** назад (1922) памёр **Ядвігін Ш** (сапр. Антон Лявіцкі), пісьменнік, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч. Значную частку жыцця пражыў у бацькоўскім фальварку Карпілаўка пад Радашкавічамі. У 1909 – 1910 гадах жыў у Вільні, працаваў сакратаром, а затым загадчыкам літаратурнага аддзела "Нашай нівы". У 1913 годзе працаваў у рэдакцыі газеты "Беларус". З лістапада 1913 да студзеня 1915 года – тэхнічны рэдактар беларускага сельскагаспадарчага часопіса "Саха" і беларускага часопіса для дзяцей і моладзі "Лучынка" ў Мінску. Меў дачку. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

Нарадзіўся **Рыгор Барадулін** (1935 – 2014), беларускі паэт, перакладчык, народны паэт Беларусі.

### 25 ЛЮТАГА

**60 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Пісьмянкова** (1957–2004), беларускага паэта.

### 26 ЛЮТАГА

**105 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Карпава (1912–1977), беларускага пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўца.

**85 гадоў** з дня выхаду (1932) першага нумара газеты "Літаратура і мастацтва", грамадска-палітычнай і літаратурна-мастацкай газеты.

### У ЛЮТЫМ

**145 гадоў** з дня нараджэння **Вітольда Бялыніцкага-Бірулі** (1872 – 1957), беларускага і рускага жывапісца-пейзажыста, народнага мастака Беларусі, народнага мастака Расіі. Акадэмік (1908) Імператарскай Акадэміі мастацтваў. Развіваў традыцыі рускага лірычнага пейзажу канца XIX стагоддзя і стаў найбуйнейшым беларускім пейзажыстам, які вывеў жанр беларускага пейзажнага жывапісу на ўзровень еўрапейскай класікі. Адно з лепшых палотнаў – карціна "Зімовы сон" (1911), за якую мастак быў узнагароджаны бронзавым медалём на Міжнароднай выставе ў Барселоне. Пахаваны ў Маскве на Новадзявочых могілках.

### 2 САКАВІКА

**1562 год.** Нарадзіўся **Крыштаф Мікалай Дарагастайскі**, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, заснавальнік друкарні ў мястэчку Ашмяна Муравaная (цяпер Муравана-Ашмянка).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Чапля, бусел ці арлан: у Вілейцы абіраюць птушку-сімвал

ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

**Вялікі яркі зімародак сустракае валожынцаў у цэнтры горада. А маленькіх зімародачкаў турысты набываюць на магнітах на памяць пра Валожыншчыну.**

На сённяшні дзень птушкі-сімвалы ёсць у Валожыне, Мёрах і Слуцку.

**Аднак менавіта Валожын стаў першым горадам, дзе птушку выбіралі ў інтэрнэце самі мясцовыя жыхары.**



Летась птушкай Валожыншчыны стаў зімародак.

А ўсё таму, што летась зімародак стаў птушкай-сімвалам Валожынскага раёна. Па словах **Вікторыі Церашонак**, супрацоўніцы арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны", летась яны зладзілі праект "Птушка як візітная картка рэгіёна". Пілотнай тэрыторыяй абралі Валожынскі раён.

### Зрабіце сэлфі з зімародкам

Патэнцыйнымі сімваламі Валожыншчыны былі пяць птушак. Усіх канкурэнтаў абышоў зімародак.

– Вельмі добра, што так атрымалася, – лічыць Вікторыя. Зімародак – прыгожая птушка з яркімі сіне-аранжавымі пёркамі.

Аднак не прыгажосць – паказчык, па якім выбіраюць птушку-сімвал. Па словах спецыяліста, у Налібоцкай пушчы на Валожыншчыне жыве самая вялікая калонія зімародкаў. А гэта важна, каб птушка-сімвал гнездавалася на тэрыторыі той мясцовасці, сімвалам якой яе абіраюць.

Ці змянілася Валожыншчына пасля таго, як набыла птушку-сімвал? Па словах Вікторыі, у цэнтры горада паставілі яркую двухметровую скульптуру зімародка. Сёння – гэта адно з папулярных месцаў для сэлфі турыстаў і мясцовых жыхароў.

На будынках у Валожынскім раёне намалявалі графіці з зімародкам. А мясцовыя рамеснікі з энтузіязмам узяліся за выраб сувеніраў з гэтай птушкай. Зімародкаў яны валілі з лямцу, малявалі на магнітах. У розных месцах горада ўсталявалі інфармацыйныя стэнды.

На Валожыншчыне шмат турыстычных аграсядзібаў. Спецыялісты арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" праводзілі для гаспадароў сядзібаў семінары па экалагічным турызме. Цяпер тыя могуць расказаць гасцям раёна пра птушак, што жывуць на Валожыншчыне.

Праект доўжыўся некалькі месяцаў. За гэты час, расказала Вікторыя, сабралі шмат звестак пра выбар птушкі-сімвала. Свой досвед спецыялісты скарысталі для напісання кніжкі "Пяць крокаў як выбраць птушку-сімвал". Кнігу разаслалі па ўсіх рэгіёнах Беларусі.

Прапановай зацікавіліся каля 20 раёнаў. Сярод іх быў і Вілейскі.

### Бусел белы ці кнігаўка?

У Беларусі гняздуецца каля 200 відаў птушак, расказала Вікторыя. Як выбраць тую, якая б магла стаць сімвалам Вілейшчыны? Абавязкова трэба, каб птушка тут жыла.

Надрэнна, каб яна была рэдкай. Гэта пажадана, перш за ўсё, для самой птушкі. Магчыма, тады зробяць больш, каб захаваць іх рэдкі від. Валожынскі зімародак, напрыклад, занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Віляйчанам прапануюць выбіраць паміж кнігаўкай, вушастай савой, гарадской ластаўкай, вялікім дзятлам, арланам-белахвостам, вялікай чапляй, вялікай сініцай і белым буслом.

Ужо прагаласавала больш за 300 чалавек. Лідары пакуль – кнігаўка і белы бусел.

### Іна Шапель, жыхарка Вілейкі: Я – за сінічку!

Некаторыя віляйчане лічаць, што галоўнай птушкай у горадзе павінны быць бусел. Бо яго гняздо месціцца на ўездзе ў горад. Кажуць, што нават ёсць павер'е: калі буслы перастануць тут гнездавацца, горад загіне.

Вілейшчыну не ўявіць без Віліі са шматлікімі прытокамі і без Вілейскага вадасховішча. Таму ёсць прыхільнікі думкі, што птушка павінна быць звязаная з вадой. Таму з прапанаваных – гэта чапля.

Бібліятэкарка з Вілейкі **Іна Шапель** пра выбар птушкі-сімвала Вілейкі прачытала ў раённай газеце. Пакуль яшчэ не галасавала. Але, на яе думку, на гэтую ролю падышла б сініца.

**– Бусел – птушка вельмі прыгожая і сур'ёзная, – лічыць Іна, – гэта хутчэй сімвал усёй Беларусі. А сінічка – яна маленькая і мілая, такая самая як наша Вілейка.**

### Пара вілейскіх арланаў – кандыдаты на птушак-сімвалаў

У Вілейцы стварылі арганізацыйны камітэт па выбары галоўнай птушкі. У яго склад увайшла дырэктар Вілейскага музея **Надзея Аўдзей.**

– Для мяне асабіста сімвалам нашага горада з'яўляецца ластаўка, – распавядае Надзея.

Жанчына жыве на вуліцы Савецкай, дзе ластавак шмат. Яна любіць назіраць у акно, як птушкі лётаюць, ладзяць гнёзды.

На думку Надзеі, птушка-сімвал – не тая, якую можна ўбачыць толькі ў кнізе на карцінцы. Гэта птушка, з якой можна працаваць. Карміць зімой. Паказваць дзецям.

На Вілейскім вадасховішчы ў любы час ёсць чаплі, на палях Вілейшчыны – кнігаўкі, на гарадскіх вуліцах – сініцы.

Надзея прапаноўвала яшчэ ў спіс кандыдатаў уключыць глушца. На яе думку, гэта адна з самых загадкавых птушак.

Яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага глушцоў спрабавалі разводзіць у няволі.

Аднак і да сённяшняга дня нічога з гэтага не атрымліваецца. Глушцы ў няволі жывуць, але не прыносяць прыплод. Аказваецца, самцы, каб нарадзіць дзіця, патрэбнае спецыяльнае харчаванне, якое ёсць толькі ў лесе.

Надзея лічыць, што птушка-сімвал зробіць Вілейшчыну больш прывабнай для турыстаў. Можна будзе зрабіць цікавыя экалагічныя сцяжынкі. Якую б птушку ні выбралі, кажа Надзея, вілейскі музей падтрымае гэты выбар і паспрыяе "піяру".

Сярод прапанаваных птушак ёсць і арлан белахвосты. Ён сімвалізуе моц, гонар, незалежнасць духу. Па словах супрацоўнікаў лясніцтва, на Вілейшчыне жыве толькі адна пара гэтых птушак. Дзе яны жывуць дакладна, не сказалі.

### Таццяна Захарыч: і дзеці, і дарослыя ратавалі прыгажуню саву

Дырэктар Цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч**, якая таксама ў арганізацыйным камітэце, прапанавала ўключыць у спіс вушастую саву. Чаму? Вось што расказала жанчына.

Некалі пад акно будынка эстэтычнага цэнтра звалілася параненая сава. І дзеці, і педагогі, і дырэктар выбеглі на вуліцу. Пачалі хвалявацца: што ж рабіць? Куды тэлефанаваць?

Бачылі, што з савой нешта здарылася, а што менавіта, зразумець не змаглі. Дзеці вельмі хваляваліся, што птушка загіне.

**Птушка была такая прыгожая. І ў той жа час спалоханая і разгубленая, нібы маленькае дзіця.**

– Мы тэлефанавалі ў ахову прыроды, у райвыканкам, – успамінае Таццяна Захарыч. – З райвыканкама прыехала гаспадарчая група. Работнікі ў пальчатках узялі саву і павезлі яе ў ветэрынарную клініку.

Калі пазней Таццяна Захарыч патэлефанавала туды, доктар патлумачыў, што ў савы было паранена крыло. Хутчэй за ўсё, птушка пашкодзіла яго аб правады. Ёй зрабілі прысыпку са стрэптацыду.

Паўстала пытанне, што рабіць далей? Пакінуць саву ў няволі не маглі, яна б загінула. Тады дамовіліся з вілейскім доследным лясгасам.

Птушку адвезлі на яго тэрыторыю і пасадзілі на елку. Там супрацоўнікі назіралі за параненай савой да таго часу, пакуль крыло не загаілася і яна не паляцела ў лес.

– І сёння памятаю, якая гэта сава была прыгожая і як хваляваліся за яе дзеці, – заканчвае свой распавед Таццяна Захарыч. – Добра было б, каб менавіта яна, сава, якую выратавалі вілейскія дзеці і педагогі, стала сімвалам горада.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

# Касцёл у Будславе адновім грамадой

МЯДЗЕЛ

**На рэстаўрацыю Нацыянальнага санктуарыя Божай Маці ў Будславе ў Мядзельскім раёне сабраны амаль 61 мільён недамінаваных рублёў прыватных ахвяраванняў.**



Фота Насці РОЎДА.

На рэстаўрацыю сабраны амаль 61 мільён недэнамінаваных рублёў.

Паведаміў намеснік старшыні савета Беларускага фонду культуры **Тадэвуш Стружэцкі** 7 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай 30-годдзю фонду.

Гэтыя грошы сабраныя пераважна ў Чырвоным, Кафедральным і Будслаўскім касцёлах. Стружэцкі адзначыў, што калі б да гэтых трох касцёлаў далучыліся 350 астатніх, дзе праводзіліся службы, прысвечаныя Будславу, то "сума была б у некалькі дзясяткаў разоў большая", паведамляюць naviny.by.

Акцыя па збору сродкаў для аднаўлення храма была абвешчаная яшчэ ў 2015 годзе, нагадаў дзеяч культуры. На яго думку, для рэстаўрацыі патрэбныя вельмі вялікія сродкі, таму сэнс акцыі прыцягнуць увагу грамадскасці да нацыянальнай святыні.

"Па-першае, патрабуюцца тэрміновыя даследаванні з удзелам дасведчаных спецыялістаў і рэстаўрацыя старажытнага драўлянага алтара эпохі ранняга барока, створанага ў 1643-1651 гадах. Ён унікальны не толькі для Беларусі, ён не мае аналагаў у сакральнай архітэктуры Літвы і Польшчы. Таксама патрабуюць рэстаўрацыі сам абраз Маці Божай Будслаўскай і фрэскі ў бакавых абсідах алтара галоўнага будынка храма, а таксама ўнікальны арган касцёла", – паведаміў ён.

**Паводле naviny.by**

# Папяровы арган мядзяльчаніна набраў у інтэрнэце 200 тысяч праглядаў за некалькі дзён

МЯДЗЕЛ

**Ураджэнец Мядзела Аляксей Жоўнер за некалькі дзён пасля таго, як 13 лютага выклаў у сеткі відэазапіс працэсу вырабу аргана з паперы – прычым дзеючага аргана, – атрымаў сотні лістоў з просьбамі аб падрабязнасцях.**



Фота з канала Aliaksei Zhoiner на YouTube.

Арган з паперы.

Сам майстар кажа, што гэта не рэкорд. Тры гады таму яго відэа з працэсам вырабу папяровага рухавіка набрала больш за тры мільёны праглядаў, паведамляе catholic.by.

"Я не вынаходнік, я проста цікаўлюся мадэляваннем", – кажа Аляксей, успамінаючы,



Фота Яўгена ЕРЧАКА, TUT.BY

Аляксей Жоўнер.

што першыя ўрокі атрымаў дзякуючы часопісу "Юный техник".

У дзяцінстве ён іграў на акардэоне ў Мядзельскай музычнай школе і аднойчы з яе калектывам трапіў у нарачанскі касцёл: "Ездзілі пaглядзець, як выглядае арган, з чаго складаецца".

"Гісторыя з папулярнасцю майго відэа адбылася раптоўна, – прызнаецца Аляксей. – Выкладаў толькі для дэманстрацыі такім жа аматарам, як і я. Але раптоўна, за адну ноч, відэа набрала вялікую колькасць праглядаў". І дадае, што збіраўся зрабіць не арган, а музычную шкатулку, якую папрасіла жонка.

**Паводле krynica.info i catholic.by.**

# Штучны лепш за натуральны

## Які штучны матэрыял можа канкурыраваць і па цане, і па якасці з натуральным

**Калі вы з ліку тых людзей, якія нават у крызіс хочуць мець адметную мэблю, але пры гэтым не сядзець паклаўшы зубы на паліцу, прапануем звярнуць увагу на новы матэрыял – экаскуру.**

У склад яе ўваходзіць бавоўна, штучныя матэрыялы на аснове цэлюлозы, натуральная скура і палімеры. Падчас вырабу на баваўняную аснову наносяць поліўрэтанавую плёнку. Пры гэтым неабходныя ўласцівасці закладаюцца непасрэдна ў працэсе сінтэзу. Гэта дазваляе абысціся без шкодных дадаткаў. Як вынік, у працэсе эксплуатацыі матэрыял не выдзяляе шкодных рэчываў. Дзякуючы гэтай уласцівасці матэрыял і назвалі экаскурай.

Матэрыял штучны, аднак у параўнанні са скурай мае шэраг значных пераваг.

– Па-першае, штучныя матэрыялы больш трывалыя, экаскура не выключэнне, – распавядае дырэктар мэблевай крамы ў Маладзечне "Мара" **Уладзімір Рамаёўскі**. – Менавіта гэту якасць актыўна выкарыстоўваюць вытворцы мэблі. Такую тканіну можна ўбачыць на бакавінах канапаў і крэслаў, на ніжніх планках, а таксама ў спецыяльна створанай мэблі для тых, у каго ёсць дамашнія жывёлы.

### Калі не сказаць, то ад скуры вы не адрозніце матэрыял

Спецыяліст зазначае, што экаскура настолькі падобная на натуральны матэрыял, што дапамагчы адрозніць зможа толькі спецыяліст альбо маркіроўка на вырабе.

Уладзімір Анатольевіч правёў невялічкі эксперымент з намі. Паказаў два крэслы, аднолькавыя па колеры, прапанаваў вызначыць, які матэрыял з прапанаваных штучны, а які наадварот. Вырабы мы маглі памацаць, пасядзець на іх. Аднак вызначыць, чым яны адрозніваюцца, так і не атрымалася.

– Скура патрабуе больш пільнага догляду, – пералічвае асаблівасці Уладзімір Анатольевіч. – Калі, напрыклад, на канапу з экаскуры праліць чырвонае віно, то не трэба хвалявацца, што застануцца плямы, дастаткова працерці вільготнай анучкай, і віна, як не было. У выпадку са скурай так хутка не атрымаецца, прыйдзецца набыць спецыяльныя сродкі.

Абодва матэрыялы цёплыя навобмацак. Але адрозніць іх можна, калі працяглы час пасядзець. У вырабе са скуры агаленыя ўчасткі цела спацеюць, у выпадку з экаскурай такога не здарыцца.

Таму, калі вы вырашылі пафарсіць перад знаёмымі альбо ўпрыгожыць сваё жыллё мэбляй са скуры, можаце смела выбіраць экаскуру. Адрозненні на вока не заўважныя, затое здзіўленыя погляды сяброў дакладна забяспечаныя. Ды і для кашалька растраты не будуць шокам.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## У Мядзеле прайшла творчая сустрэча з Марыяй Захарэвіч

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле 18 лютага адбылася творчая сустрэча з народнай артысткай Беларусі **Марыяй Захарэвіч** "Ave, Maria".

Прысвячалася яна выхаду кнігі "Марыя Захарэвіч. Талент, адухоўлены любоўю". Кніга выйшла летась у лістападзе да 80-годдзя Марыі Захарэвіч.

У сустрэчы прынялі ўдзел старшыня Мядзельскага райвыканкама **Анатоль Вайнілка**, народны мастак Беларусі **Васіль Шаранговіч**, паэт **Мікола Шабовіч**, паэт, празаік, бард **Дзмітры Пятровіч**, укладальнік кнігі **Соф'я Жыбулеўская** і іншыя.

На сустрэчу з зямлячкай прыйшлі прыхільнікі яе таленту, людзі розных узростаў і прафесій. Гучалі душэўныя беларускія песні, цёплыя словы віншавання і пажаданні творчых поспехаў і доўгіх гадоў жыцця, вершы-прысвячэнні ў адрас Марыі Георгіеўны ад самадзейных паэтаў Мядзельшчыны. Кульмінацыяй сустрэчы стала песня "Ave, Maria" ў выкананні навучэнцаў Мядзельскай школы мастацтваў і членаў народнага клуба аматараў песні "Верасень".

**Паводле сайта Мядзельскага райвыканкама.**

НАВІНЫ

## Вілейскія выратавальнікі – лепшыя ў шахматах на Міншчыне

ВІЛЕЙКА

У Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па шахматах і шашках 16 лютага прайшоў чэмпіянат Мінскага абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях па шахматах. У ім прынялі ўдзел 24 каманды з гарнізонаў вобласці.

Першае месца заняла каманда Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях. У яе складзе былі начальнік аддзела **Аляксандр Яхімовіч** і начальніка каравула пажарнай аварыйна-выратавальнай часці №1 Вілейкі **Андрэй Балаш**, паведамляе абласное ўпраўленне МНС.

## Смаргонцы выйгралі міжнародны дзіцячы турнір

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

У спартыўным комплексе "Юнацтва" ў Смаргоні 17-18 лютага праходзіў Міжнародны дзіцячы турнір па міні-футболе сярод хлопчыкаў 2007 года нараджэння Smorgon bear 2017.

Удзельнічалі ў ім шэсць камандаў. Гэта ДЮСШ-4 Маладзечна, Fair play з Ашмянаў, дзве каманды са Смаргоні: ДЮСШ-2007 і ДЮСШ-2008, СДЮШАР "Дынама" Мінск, "Экспрэс" з расійскага горада Вялікія Лукі.

Перамагла смаргонская каманда ДЮСШ-2007. Па выніках турніру былі вызначаны намінацыі. З нашага рэгіёна лепшы бамбардзір – **Канстанцін Кухлей** і лепшы варатар – **Арсень Іваноўскі**. Абодва яны з ДЮСШ-2007 Смаргоні.

Таксама ў камандах ДЮСШ-2008 са Смаргоні і ДЮСШ-4 Маладзечна вызначылі лепшых гульцоў камандаў. У смаргонскай ім стаў **Арцём Кухарэнка**, а ў маладзечанскай – **Міхаіл Куляхін**. Пра гэта паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні.

## Смаргонскія юнакі пазмагаюцца ў фінале першынства вобласці

СМАРГОНЬ

Адбыліся кваліфікацыйныя гульні першынства Гродзенскай вобласці па міні-футболе сярод юнакоў 2005 года нараджэння. Удзельнічалі 19 камандаў, якія спаборнічалі ў чатырох групах. Па дзве лепшыя з іх выходзілі ў фінал.

Ад нашага рэгіёна трапіла ў лік фіналістаў каманда Смаргонскага раёна. Па інфармацыі Гродзенскай гарадской федэрацыі футбола, фінал пройдзе 28 лютага і 1 сакавіка ў Лідзе.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гадзінны бег у крытым манежы зладзяць у Маладзечне ў нядзелю

МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю, 27 лютага, у 11:30 у маладзечанскім крытым лёгкаатлетычным манежы збяруцца аматары бегу.

Як расказалі арганізатары, ад 10:00 да 11:20 удзельнікі будуць рэгістравацца. А ў 11:30 ужо пачнецца першы забег.

Удзельнічаць могуць не толькі беларусы, а таксама аматары бегу з краін СНД і далёкага замежжа.

У першым забегу, згодна з Палажэннем, стартуюць жанчыны да 18 год, а таксама ад 18 год і старэйшыя, мужчыны, старэйшыя за 60 гадоў.

У другім забегу, у 12:40, пабягуць мужчыны да 18 гадоў, а таксама ад 18 да 59 гадоў.

Спаборніцтвы праводзяць аддзел адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама і клуб аматараў бегу "Рэгіён".

Пераможцаў узнагародзяць граматамі і кубкамі. Усе ўдзельнікі, якія закончаць дыстанцыю, атрымаюць медалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Спартыўная школа праводзіць набор хлопчыкаў у групы агульнай фізічнай падрыхтоўкі

МАЛАДЗЕЧНА

Вучэбна-спартыўная ўстанова "Дзіцяча-юнацкая спартыўная школа №1" праводзіць набор хлопчыкаў 6-8 гадоў у групы агульнай фізічнай падрыхтоўкі з элементамі барацьбы, гімнастыкі, акрабатыкі.

Заняткі будуць праходзіць у зале барацьбы па вуліцы Ясінскага, 21 (серада і пятніца – з 17:00, нядзеля – з 12:00).

Тэлефоны для даведак:
**(80176) 76-48-38,**
**(80176) 76-48-51,**
**(8029) 707-60-19,**
**(8029) 770-75-93.**

**Аддзел інфармацыі.**

# У каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" новы трэнер




Фота Настасі РОЎДЫ.

Сяргей Дараховіч (справа) прайшоў маладзечанскую школу футбола ад другой да вышэйшай лігі. Цяпер ён узначаліць каманду. Фота зробленае ў 2015 годзе. На фота разам з Сяргеем Дараховічам тагачасны таварыш па камандзе Уладзіслаў Фядотаў. Цяпер гулец "Іслачы".

МАЛАДЗЕЧНА

**Каманду ў сезоне 2017 года ўзначаліць Сяргей Дараховіч.**

Сяргею Дараховічу 37 гадоў, ён выхаванец маладзечанскай футбольнай школы.

Шмат гадоў гуляў за каманду горада ў амплуа паўабаронцы, быў капітанам маладзечанскай каманды. Пашчасціла Сяргею гуляць і ў вышэйшай лізе.

У тэлефоннай размове з новым трэнерам ён быў нешматслоўны:

– А што пакуль каментаваць? Пажывём – пабачым. Адзінае, што магу сказаць, каманда пачала падрыхтоўку да сезона 2017, які, як мяркуецца, пачнецца ў канцы красавіка.

Галоўны трэнер каманды плануе праводзіць чатыры трэніроўкі ў тыдзень.

– Аднак, вы бачыце, што стадыён яшчэ сыры, таму давядзецца ездзіць у Чысць, каб трэніравацца на штучным пакрыцці.

У камандзе Сяргея Дараховіча трэніруюцца футбалісты, якія ўжо знаёмыя маладзечанцам: **Юры Бугай, Дзмітры Касцюк, Сяргей Галюк**...

– У камандзе сур'ёзных зменаў не адбылося. Аснову яе, а магчыма і цалкам, складуць мясцовыя футбалісты.

А вось назва каманды зменіцца:

– Ад 2017 года каманда будзе называцца проста "Маладзечна".

**Наталля ТУР.**

## "Мядзведзям" не хапіла аднаго гола да паўфіналу

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе прайшлі чвэрцьфіналы. "Мядзведзі" са Смаргоні гулялі з "Энергіяй" з Зэльвы. Першы матч у Зэльве смаргонцы мінімальна прайгралі 4:5.

У Смаргоні 12 лютага прайшоў матч у адказ. Для смаргонцаў пачаўся ён аптымістычна:

– Вялі 4:1 і панесліся на злом галавы забіваць яшчэ. А ў выніку – дзве контратакі і два галы, – расказаў гулец "Мядзведзяў" **Віталь Будай**. Ён гэты матч прапускаў з-за траўмы і вёў пратакол матча. – У другім тайме зноў атрымалася адарвацца ў ліку 5:3, але з-за памылкі ў абароне лік стаў 5:4. Далей зноў наступілі на старыя граблі, панесліся забіваць і прапусцілі контратаку. "Мядзведзям" трэба ўжо было забіваць мінімум два галы.

– За хвілін сем да канца адзін адквіталі, – працягвае Віталь. – Астатні час правіселі на чужых варотах, мелі мноства момантаў, але не змаглі іх рэалізаваць.

Хоць смаргонцы і выйгралі 6:5, але ў паўфінал з-за большай колькасці забітых галоў у гасцях прайшла "Энергія".

"Меліяратар" з Астраўца першы матч чвэрцьфіналу прайграў "Гродзенскаму" 5:13. У гасцях 11 лютага астраўчане пацярпелі яшчэ больш скрышальнае паражэнне 2:13.

Астраўчане разам з "Мядзведзямі" змагаюцца за пятае-восьмае месца.

У першым матчы 19 лютага ў Гервятах "Меліяратар" саступіў "Мядзведзям" 7:10.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота Дзіны БЕБЕХ, газета "Праца".

Момант гульні "Мядзведзяў" са Смаргоні з камандай "Энергія" з Зэльвы.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Што прымаюць пры сардэчным приступе.
4. Увесці ў зман.
7. З яе робяць манку.
9. Там самае сухое месца на Зямлі.
15. Гучны, нястрыманы смех.
18. Элемент азбукі.
19. Пераўтварэнне рэчываў у даброты, патрэбныя людзям.
20. Роды ў каровы, самкі аленя, лася.
24. Роўнасць з переменнай.
26. Забаўляльна-выхаваўчая ўстанова для дзяцей у Маладзечне, якая бярэ вытокі з народнай творчасці.
29. Штосьці некранутае, нявораная зямля, дзікі лес, грыбное месца.
31. Краіна з найбольшай колькасцю людзей, якія гавораць па-кітайску.
32. Дэкаратыўная ваза для кветкавага гаршка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Спектакль, збор ад якога ідзе на карысць аднаго акцёра.
3. Сплаў медзі і волава.
5. Прозвішча спявачкі, якая арганізавала першы маладзечанскі мюзікл.
6. У старыну так называлі любы дакумент, ліст.
8. Рад аднолькавых металічных звёнаў, паслядоўна злучаных адно з адным.
10. Адзінка вымярэння сілы цяжкасці.
11. Вулканічная горная парода, звычайна чорнага колеру.
12. На языку мядок, а на сэрцы …
13. Пясчаныя ўзгоркі ў пустынях, нанесеныя ветрам.
14. Кароткі змест оперы, балета.
16. Іх серыйную вытворчасць упершыню зрабіла іспанская фірма “Адзінства” ў пачатку 20 стагоддзя.
17. Язычніцкая малельня статуям язычніцкіх багоў.
21. Непразрыстая паветра, насычанае вадзянымі парамі.
22. Сталіца Венесуэлы.
23. Якую ўзнагароду атрымаў савецкі фільм "Масква слязам не верыць"?
25. Спыненне блізкіх адносінаў, аддаленне.
27. Пра гэту жывёлу еўрапейцы гаварылі, што яна мае два хвасты.
28. Таварны вагон, прыстасаваны для перавозкі людзей.
30. Вынік адымання.

## Адказы на крыжаванку з №7.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Кінематыка. 3. Гармон. 5. Сумленне.7. Радыус. 8. Фатальны. 9. Купіна. 10. Этыкет. 13. Марэна. 14. Шлягер. 15. Апалогія. 18. Рэфлексія. 19. Попыт. 20. Цяцерка. 22. Чарніцы. 25. Чалавек. 26. Плагіят. 28. Метэоры. 29. Настальгія. 32. Канада. 33. Наркотыкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Мінімум. 4. Веленгтон. 6. Шчэбень. 11. Сатыра. 12. Скандал. 15. Антарктыда. 16. Прырода. 17. Сышчык. 21. Памыляцца. 23. Віталізм. 24. Юрлівец. 26. Планёрка. 27. Асірыі. 30. Эліны. 31. Труба. 34. Кітай. 35. Жэрміналь.



## ГАРАСКОП 24 ЛЮТАГА - 2 САКАВІКА



**Авен.** Напружаныя дні, якія будуць звязаныя з рознымі канфліктамі і немагчымасцю прыйсці да адзінага меркавання. Можа, нават узнікнуць сур’ёзнае расчараванне ва ўсім. Але не хандрыце, бо ў ваша жыццё цяпер уваходзіць нешта новае. Нейкія перамены адбудуцца.



**Цялец.** Дні спрыяльныя для новых пачынанняў, асабліва ў матэрыяльнай сферы. Падлічвайце свае даходы і складайце планы на будучае. Можна купляць нейкія каштоўныя рэчы – калі маеце ў гэтым патрэбу.



**Блізняты.** Будзьце ўважлівыя пры паходзе ў магазіны, не накупляйце непатрэбных рэчаў, каб пасля не шкадаваць. Не паддавайцеся дрэннаму настрою, памятайце, што ў жыцці ўсё так хутка мяняецца: сёння – так, а заўтра – гэтак.



**Рак.** У вас будзе рамантычны настрой, прыемныя знаёмствы і падзеі ва ўласным жыцці. Менавіта цяпер можна дасягнуць значных паляпшэнняў ва ўласным жыцці і ўмацаванні адносінаў.



**Леў.** Вам не варта ўвасабляць у жыццё свае планы, асабліва калі яны надта складаныя ці ў гэтай схеме задзейнічана вельмі шмат людзей. Не варта і рызыкаваць.



**Дзева.** Пазбаўцеся ад старых ідэй і жаданняў, якія будуць для вас цяжарам і якія будуць правакаваць на рызыкоўныя і неапраўданыя ўчынкі.



**Шалі.** Звярніце ўвагу на дробязі, якія не здаюцца вам чымсьці важным. Але менавіта яны якасна ўплываюць на ваша жыццё.



**Скарпіён.** Прыйдзецца працаваць нашмат больш, чым звычайна. Гэты перыяд дазволіць закласці асновы вашага фінансавага дабрабыту. Вы заўсёды можаце разлічваць на падтрымку сяброў ці сваіх родных.



**Стралец.** Настаў час прымаць рашэнні, ад якіх будзе залежаць усё ў вашым далейшым жыцці. І не прыслухоўвайцеся да меркавання іншых, інакш гэта будзе азначаць, што вы перадалі кіраванне сваім жыццём трэцяй асобе. Калі ў вас ёсць дзеці, то навучыце іх чамусьці карыснаму, што абавязкова спатрэбіцца ў жыцці.



**Казярог.** Цяпер закладваюцца важныя асновы для вашага далейшага жыцця. І хаця глабальных перамен цяпер не бачна, але першыя крокі будуць зробленыя менавіта ў гэты час. Значна пазней убачыце і канчатковы вынік. Будзьце ўважлівыя з дакументамі. Прымайце дапамогу толькі ад блізкіх.



**Вадалей.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Каб гэтага не адбылося, трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе.



**Рыбы.** Энергія будзе біць ключом. Вы ў стане вырашыць усе пытанні, якія накапіліся за доўгія гады, і запусціць яшчэ пару-тройку новых глабальных праектаў, калі паставіце перад сабой такую мэту.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 7 | 5 | | 2 | 6 | |
| 6 | | | | 4 | | | 1 | 8 |
| | | | | | 6 | | | |
| | | 4 | | | | 1 | | 7 |
| | 8 | | | | | | 4 | |
| 5 | | 2 | | | | 6 | | |
| | | | 5 | | | | | |
| 7 | 9 | | | 8 | | | | 6 |
| | 4 | 6 | | 3 | 7 | 5 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

**25 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +4 | | -2 / +1 | | 0 / +4 | | +3 / +4 | |
| | 719 | ↓ 8 | 735 | → 5 | 728 | ↗ 5 | 733 | → 8 |
| Вільня | 0 / -1 | | -3 / +1 | | -1 / +2 | | +1 / +1 | |
| | 731 | ↓ 6 | 745 | → 7 | 740 | → 7 | 748 | → 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.09
Захад 18.42
Даўжыня дня 10.33

Усход 7.04
Захад 16.11
Квадра 4




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -20 °C у 2011 годзе
Максімальная тэмпература +6,5 °C у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,7 мм у 2012 годзе
Паводле meteoinfo.by

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настасі РОЙДЫ.

Вясна ідзе.



## Чытайце праз тыдзень:

- Янка Купала ў пачатку 1940-х раз'язджаў па сталічных вуліцах на аўтамабілі шэўрале, падораным уладамі. А ў 1970-х паэты за кніжкі атрымлівалі ганарары, роўныя заробку настаўніка за некалькі месяцаў. А які прыбытак літаратура прыносіць сёння?



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што трэба зрабіць, каб адчуць вясну?

**Таіса Бажко, педагог:**
– Трэба быць упэўненым у заўтрашнім дні. Радавацца жыццю. Чакаць святаў.

**Вольга Лісічонак, гаспадыня:**
– А нашто рабіць нешта спецыяльна? Выходзь на вуліцу, глядзі на ручаі, на птушак – і адчуеш вясну. Гэта бясплатны варыянт. А калі ёсць сродкі, можна гардэроб абнавіць.

**Уладзіслаў Апанасевіч, навучэнец:**
– А я вясну ўжо адчуў. Мая дзяўчына, якая і так заўжды прыгожая, стала яшчэ прыгажэйшай.

**Вольга Станулевіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– Трэба кахаць і быць каханымі. Старацца атрымліваць ад жыцця шмат яркіх эмоцый.

**Ганна Хахлова, медсястра:**
– Больш бываць на свежым паветры. Можна памяняць імідж. Напрыклад, зрабіць новую прычоску альбо памяняць колер валасоў.

**Павел Бярэзін, навучэнец:**
– Я адчуваю вясну, як толькі выйду на вуліцу. Ужо пацяплела, людзі сталі больш усмешлівыя. Птушкі спяваюць, хмаркі рассейваюцца.

**Ірына Якубоўская, выхавальніца:**
– Можна паглядзець у акно, можна на каляндар. Але я канчаткова адчуваю вясну, калі перад жаночым святам у горадзе пачынаюць прадаваць цюльпаны.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№8 (1139) 24.02.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 177 . Падпісана ў друк у 9.00 23.02.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.